


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

25 кастрычніка 2002 года

№ 43 (392)

Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Новая АТС у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе пабудаваная новая аўтаматычная тэлефонная станцыя на паўтары тысячы нумароў.
Падключылі першыя 500 абанентаў, астатнім правядуць тэлефоны да канца года. Новая АТС будзе абслугоўваць жыхароў чацвертага і трэцяга мікраraёнаў. На наступны год плануецца пабудаваць аналагічную АТС у шостым мікрараёне. 5083 маладзечанцы маюць патрэбу ва ўстаноўцы тэлефона.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Бадзяга з Башкірыі

МЯДЗЕЛ. З вёскі Нарэйшы "хуткая дапамога" даставіла ў бальніцу мужчыну ў стане моцнага знясілення.
Яго адкачалі, адмылі. Мужчына расказаў, што ён родам з Башкірыі, Расію пакінуў у 1994 годзе. Пасля бадзяжнічаў па тэрыторыі Украіны, Літвы. Нядаўна дабраўся і да нас. У лесе каля Нарэйшаў зрабіў сабе лежбішча, неяк жыў. Зараз міліцыя высвятляе, ці праўду ён нагаварыў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### «Надзея» пашыраецца

ВІЛЕЙКА. У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея", які размясціўся на беразе Вілейскага вадасховішча, пачаліся падрыхтоўчыя работы па будаўніцтву новага медыцынскага корпуса.
Акрамя гэтага плануецца да канца гэтага года поўнасцю здаць у эксплуатацыю будынак культурна-спартыўнага комплексу, у якім ужо зараз працуе сучасная спартыўная зала.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

### Смерць у калодзежы

АСТРАВЕЦ. 35-гадовага жыхара вёскі Старая Рудня работнікі міліцыі затрымалі за забойства.
Мужчына прыняў "на грудзі" добрую дозу гарэлкі і завітаў у госці да 77-гадовай жанчыны. Злачынца забраў у бабулі 80 долараў ЗША і бутэльку гарэлкі, а пасля скінуў пенсіянерку ў калодзеж. Дзе яна і памерла.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Малалетнія махляры

СМАРГОНЬ. 2 вучні школы-інтэрната падрабілі дакументы, каб завалодаць паштовым пераводам на 256 тысяч рублёў. Ён прадназначаўся жанчыне, якая ляжала ў бальніцы. Адзін з падлеткаў прадставіўся яе пляменнікам. На даверанасці з бальніцы падманам паставілі пячатку. За галоўнага ўрача падпісаўся хлапчук.
За махлярства ўзбудзілі крымінальную справу.

**Ірына РАБУШКА.**

### У Валожыне загінуў салдат

ВАЛОЖЫН. На мінулым тыдні ў вайсковай часці павесіўся 23-гадовы малодшы сяржант С. з Маладзечна.
Бачных прычын для гэтага не было. Перадсмяротных запісак не знайшлі. Падчас службы добра спраўляўся з усімі абавязкамі.
Гэтым выпадкам займаецца Мінская ваенная пракуратура. С. прыязджаў дадому за тры дні да смерці. У арміі ён адслужыў палову тэрміну – 9 месяцаў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Пераходзім на «зімовы» час

У адпаведнасці з парадкам вылічэння часу, які вызначаны урадам Рэспублікі Беларусь, з 27 кастрычніка 2002 года ў рэспубліцы адмяняецца дзеянне "летняга" часу.
У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у 3 гадзіны 27 кастрычніка 2002 года пераводзяцца на 1 гадзіну назад.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

# Ці склееш памяць?



Інспектар Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце Ігар Федасюк складвае "мазаіку" з абломкаў мемарыяльнай пліты з помніка Віленскаму шляху, якую вандалы разбілі ў мінулую пятніцу.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Вандалы ўзяліся за кувалды

**МАЛАДЗЕЧНА. 18 кастрычніка невядомыя разбілі мемарыяльную пліту ля вёскі Мясата – частку помніка Віленскаму шляху.**

У той жа дзень супрацоўнікі аддзела ўнутраных спраў на транспарце знайшлі рукзакі з абломкамі пліты. Хутчэй за ўсё злачынства здзейсніла група падлеткаў. Пліта зроблена з каляровага металу – сілуміна, які можна здаць на перапрацоўчыя прадпрыемствы і атрымаць за гэта грошы. Найбольш верагодны матыў злачынства – асабістая карысць. Вядзецца следства.

Помнік Віленскаму шляху ўстаноўлены ў 1979 годзе. Складаецца з чатырох валуноў і трох мемарыяльных дошак. На іх выбітыя імёны вядомых людзей, якія праязджалі па дарозе Мінск-Вільня. Спачатку помнік складаўся з трох валуноў, на двух з якіх былі дзве памятныя дошкі – з дрэва і сілуміну. Драўляную дошку ўкралі ў 1989 годзе. Замест яе зрабілі такую ж. Сёлетняй вясной невядомыя ўкралі пліты, з якіх складалася сцежка да помніка. Сцежку засыпалі жвірам, злачынцаў і пліты не знайшлі.

У 1995 годзе да помніка Віленскаму шляху дабавілі яшчэ валун з мемарыяльнай дошкай, на якую занеслі яшчэ 28 прозвішчаў вядомых людзей. Вось яе і разбілі ў мінулую пятніцу. Уцалела цэнтральная частка, якую злачынцы не змаглі ці не паспелі сарваць. Білі па пліце ці каменем, ці кувалдай.

Маладзечанскі раён захліснула эпідэмія вандалізму. Толькі за два апошнія гады ад аматараў каляровага металалому пацярпела шэсць помнікаў.

Урон ад апошняга злачынства яшчэ падлічваюць. Па папярэдніх дадзеных, сума будзе не меншай за тры мільёны рублёў. Дошку ўзновяць. Але не раней, чым у наступным годзе.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Храналогія злачынстваў вандалаў

**1998 год.** Укралі мемарыяльную дошку камандзіру партызанскага атрада ў вёсцы Удранка. Замест яе зрабілі часовую, якая стаіць і сёння. Злачынцаў не знайшлі.

**1999 год.** Укралі ахоўны знак археалагічнага помніка ў Красным. Знак не ўзнавілі, злачынцаў не знайшлі.

**2001 год.** Укралі мемарыяльную дошку экіпажу самалёта Прасайдзіна ў Радашкавічах. Дошку не ўзнавілі, злачынцаў не знайшлі.

**2001 год.** У Мясаце ўкралі мемарыяльную дошку піянеру Капцюгу. Дошку не ўзнавілі, злачынцаў не знайшлі.

**2001 год.** У Гарадку ўкралі мемарыяльную дошку камсамольскай каравульнай роце. Дошку не ўзнавілі, злачынцаў не знайшлі.

**2001 год.** У Радашкавічах пашкодзілі частку помніка экіпажу Гастэлы. Завялі крымінальную справу. Злачынцы атрымалі год умоўна і заплацілі за рамонт 1,4 мільёна рублёў. Помнік узнавілі, але канчатковыя выдаткі склалі 2,6 мільёна рублёў. Розніцу выдаткаваў раённы бюджэт. Помнік узнавілі.

**2002 год.** Разбілі каску – частку помніка савецкаму салдату ў Лебедзеве. Завялі крымінальную справу. Злачынцаў не знайшлі, помнік узнавілі.

**18 кастрычніка 2002 года.** У Мясаце разбілі мемарыяльную дошку – частку помніка Віленскаму шляху.

### Барыс Кіт спыняе свае праекты

Інтэрв'ю нашага земляка, заснавальніка амерыканскай астранаўтыкі Барыса Кіта, якое ён даў спецыяльна для «Рэгіянальнай газеты».



5-я старонка

### Тайны Вілейскай турмы

На вуліцы Першамайскай у Вілейцы ўзвышаецца гмах анкалагічнай бальніцы.
Але мясцовыя жыхары часцей гэты будынак называюць турмой.



6-я старонка

### Антонаў – хлопец з Галянова

Юрыя Антонава падчас вучобы ў Маладзечанскім музычным вучылішчы замыкалі ў класе, каб не збег з урокаў. Пра гэта і іншае расказваюць яго маладзечанскія знаёмыя.



8-я старонка

■ СВЯТЫ

## Сын сустрэўся з маці

**СМАРГОНЬ. У мінулы чацвер двум сынам, якія служаць у пагранічнай часці, пашчасціла на некалькі гадзін сустрэцца са сваімі маці. Прама на сцэне пад апладысменты прысутных і са слязьмі на вачах родныя ўбачылі адзін аднаго.**

Ні матулі, ні сыны пра сустрэчу не здагадваліся. Такі сюрпрыз падрыхтаваў тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва сумесна з ваенкаматам. Маціёрак запрасілі на свята, якое праходзіла ў рамках тыдня маці. А сыноў за паўгадзіны да пачатку вечарыны прывезлі на машыне з ваенкамата. Сваім маці яны падарылі гваздзікі. Потым некаторы час яны пабылі дома і ўвечары вярнуліся ў сваю часць.

Яшчэ на свяце сустрэліся шматдзетныя маці і ўдзельніцы Вялікай Айчыннай вайны. У мінулым — партызанкі і санітаркі.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ТЭАТР «БАТЛЕЙКА» ЗАПРАШАЕ

## Доктар Айбаліт

Хто такі Айбаліт? Самы добры доктар на свеце.

Вы толькі паклічце, і ён з'явіцца: "Што здарылася? Захварэлі малпачкі?! Бягу!!!". Толькі там, дзе Айбаліт, адразу ж з'яўляецца і Бармалей – нявыхаваны і злосны бандыт. Хто пераможа? Даведаецеся, калі завітаеце ва ўтульную залу "Батлейкі", якая запрашае вас 23 кастрычніка а 12 гадзіне ў незвычайную вандроўку, поўную прыгод і авантур.

**Таццяна ЧАЕЎСКАЯ.**

■ СВЯТЫ

## Прыроды шчодрыя дары

**МАЛАДЗЕЧНА. Свята пад такой назвай прайшло 19 кастрычніка ў цэнтры пазашкольнай работы.**

Вучні розных школ стварылі 107 самых разнастайных кампазіцый з агародніны. Фантазія дзяцей ператварыла кабачкі ў прыгожага лебедзя, матрошку, вожыка, човен, кракадзіла Гену; вялікі гарбуз – у чароўнага волата; капусту – у каралі; індыйскі агурок – ва ўдава. Забаўныя парсючкі былі зроблены з бульбы і кабачкоў, а восеньская карусель – з гарбузікаў розных памераў.

Многія ўдзельнікі абаранялі свае работы прыказкамі, вершамі, загадкамі. І якое ж свята ўраджаю без хлеба. Духмяны каравай членам журы ўручалі дзяўчынкі ў нацыянальных касцюмах.

Пераможцамі такога незвычайнага конкурсу сталі кампазіцыі СШ №№1, 9, 14. Дадатковымі прызамі былі ўзнагароджаны прадстаўнікі СШ №3, 12 і самая малодшая ўдзельніца – **Насця Кароза** з гуртка "Юны натураліст" (ЦПР). У падарунак пераможцы атрымалі кнігі і салодкія прызы.

**Анастасія ХУДАЯ, гурток "Юны журналіст" цэнтра пазашкольнай работы.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Гульні ў дарослых

**МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра на гарадскім стадыёне будзе чарговы футбольны матч. Апошні раз тут гулялі 6 кастрычніка. Менавіта з гэтым днём звязаны лёс 14-гадовага хлапчука.**



Да кожнага фаната міліцыянера не прыставіш.

Фота IREX/ProMedia.

### П'яніцы і таксікаманы

... 8 гадзін вечара. Станцыя Уша. У стане алкагольнай комы на рэйках нерухома ляжыць падлетак...

Супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх (ІСН) Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце ў цэмры заўважылі чалавека. Адвезлі ў бальніцу. Пра хлопца даведаліся, што ён – балельшчык адной з футбольных каманд. Інспектар ІСН **Ігар Федасюк** гаворыць, што ў той дзень у трох вагонах электрычкі ехала 300 футбольных фанатаў. Упершыню адзін з падлеткаў "трапіў" на рэйкі.

Нярэдка на футбол у Маладзечна прыязджаюць фанаты каманд-сапернікаў. Яны едуць пад наглядам міліцыі. У гэтым выпадку білет на праезд і на матч балельшчыкі не купляюць. Грошы, якія бацькі даюць на білеты, дзеці трацяць на спіртное. У ларках купляюць мацаванае піва.

За 9 месяцаў гэтага года ІСН выявіла 49 падлеткаў-п'яніц і 15 дарослых, якія спойвалі дзяцей. За гэты ж перыяд непаўналетнія ў стане алкагольнага ап'янення ўчынілі 8 злачынстваў. 7 здарылася па віне падлеткаў, якія "папаліся" ўпершыню.

Па п'яне непаўналетніх "цягне" на подзвігі: збіваюць старэйшых за сябе. Найчасцей дастаецца мужчынам. Дарэчы, дзеці, якія п'юць, звычайна выхоўваюцца ў нармальных сем'ях.

У няпоўных сем'ях растуць дзеці-таксікаманы, якія "зацягваюцца" ад клею. З пачатку года выявілі 10 малалетніх таксікаманаў, што на 7 больш, чым летась. Ім па 12-14 гадоў. 8 з іх са Смаргоні. Дзяўчынкі "не пападаліся" ніколі. Хлопцы збіраюцца па 2-3 чалавекі. Брат прыводзіць брата. Адурманеныя ад паху клею, дзеці бачаць мультыкі. Расказвалі, што перад іх вачыма праносяцца кадры з сапраўднага "Ну, пачакай!".

### Рэйкі-рэйкі, шпалы-шпалы

6-12-гадовыя дзеці любяць пагуляць на чыгунцы. Асабліва вечарам і ноччу. Нейкую асалоду адчуваюць, калі б'юць вокны ў электрычках і дызелях ці падкладваюць пад цягнікі камяні. Могуць "заміраваць" рэйкі на 100 метраў. Ці зачапіцца за ручкі апошняга вагона і на хуткасці скокнуць у адхон.

Як тыя грыбнікі, збіраюць дзеці ў пакеты серу. Потым робяць узрыўчатку. Страшэннымі выбухамі пужаюць у школах і дварах.

Сустракаюцца на чыгунцы і дзеці, якія проста падарожнічаюць. Так яны самі кажуць. На самой справе, малалетнія ўцякаюць з дома. Найчасцей прычынай з'яўляецца айчым, які не ўспрымае чужое дзіця.

Сёлета 4-х непаўналетніх супрацоўнікі ІСН адправілі ў прыёмнік-размеркавальнік. Апошні выпадак быў 8 кастрычніка. 12-гадовы хлопчык сказаў, што едзе ў Расію да бабулі. Уцякае ад п'янага айчыма. "І маці б'е мяне, — гаворыць хлапчук. — Грошы я зарабляць ужо ўмею. Дапамагаю бабулькам у вёсках дроў накалоць, кароў падаіць. Нават для маці кабана купіў".

...Халады надыходзяць. Цяпер маленькім валацужкам цяжка будзе. У электрычцы злавілі 8-гадовага хлопчыка. Два тыдні на Мінскім моры жыў. Еў недаедкі, спаў у кардонных скрынях.

За "непаслухмянасць" непаўналетніх да 14 гадоў не караюць. Калі толькі на ўлік ставяць. Бацькоў штрафуюць альбо пазбаўляюць бацькоўскіх правоў. Падлеткаў пасля 14 гадоў могуць адправіць у калонію.

Калі супрацоўнікі ловяць непаўналетніх, дзеці амаль ніколі не плачуць.

**Ірына РАБУШКА.**

■ КОНКУРСЫ

## Лепшая маладая мама

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры прайшоў конкурс маладых мам.**

Удзельнічала ў ім 5 мядзельчанак. Мусілі прадэкламаваць як мага больш дзіцячых вершаў, вызначыць навобмацак від крупаў, знайсці выйсце з розных сітуацый. У выніку перамагла Таццяна Бабёр.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ

## Паны не дбаюць аб дарогах

Хаценчыцы, Вилейск. п. Ў апошние два гады у нас мала дбаюць аб дарогах. Шмат гдзе масты пагнили, цяжка праз их перабиракцца. Дарожная павиннасць ляжыць у нас найбольш на мужыкох, дык вёсковы народ думае зрабиць так, каб никому не было крыўды: устанавиць падзесяцинную плату, роўную з кожнай дзесяцины панскай и мужыцкай зямли. Але пакуль што аб гэтым закону няма. Паны сваёй ахвотай дарог не правяць саўсим, бо праз доўги час прывыкли карыстаць з таго, што папраўка дарог узложэна на мужыкоў.

**Курэн**

У Хаценчыцкай вол. часта гарацьпанские маёнтки. Недаўна згарэў Лукавец пана Бороўскаго, а 2 акцябра ў м. Заборье п. Грыгаровича. Спалилися свирэн, хата, гдзе жыли парабки, и хлеў, а ў им каля 230 штук рагатай скацины.

**Крэсиво**

■ ПАРТРЭТ

# Гліняныя мужычкі

**МЯДЗЕЛ. Аляксандр Сарокін – вядомы не толькі ў раёне майстар па кераміцы. Зараз жыве ў Крывічах, а пераехаў сюды з Мазыра.**



Майстар па кераміцы Аляксандр Сарокін ля сваіх твораў.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Там жа і захапіўся керамікай, прытым, досыць выпадкова. Настаўнічаў, трэба было нагляднасць на ўрок зрабіць. Звярнуўся да майстроў, якія працавалі на мастацкай фабрыцы. Яны і сказалі: «Дык вы ж самі можаце гэта зрабіць». Паспрабаваў – атрымалася. З тых часоў і захапіўся гэтай справай.

**– З чаго пачынаецца выраб?**

– З задумы: калі ёсць нейкая задума, то будзе і твор. А яна прыходзіць шляхам назірання: нешта ўбачыш, параўнаеш – і тады знойдзеш вобраз.

**– Над якім вырабам найцікавей было працаваць, быццам кавалачак душы ў яго ўкладваеш?**

– Ды над кожным. Гэта ж тваё, твой спосаб самавыяўлення, у ім заключаны твае думкі.

Найбольш вядомыя яго вырабы – фігуркі мужычкоў. У каго ў руках гармонік, у каго – сякера, піла. Усе вясёлыя, у вачах свецціцца добрая хітрынка.

**– Адкуль гэтыя вобраз ўзяўся?**

– Падглядзеў яго на Мазыршчыне. У гэтым вобразе заключана ўсё, што звязана з мужыком-беларусам. Ён як Несцерка: працавіты, кемлівы, вясёлы. Вобраз унікальны: яго можна развіваць далей і далей, няма гэтаму мяжы.

А ў Крывічы Аляксандр Сарокін прыехаў з вялікімі планамі. Хацеў тут арганізаваць вытворчасць для выпуску мастацкіх вырабаў. Прывёз станкі, абсталяванне з Мазыра, але далей гэтага не пайшло: мясцовы калгас не ў лепшым стане тады быў. А зараз працу працягвае Крывіцкі цэнтр народных рамёстваў.

Дзе б ні працаваў майстар, ці ў гэтым цэнтры, ці, як цяпер, у дапаможнай школе-інтэрнаце, заўсёды ён з дзецьмі. Гаворыць, што ў іх непасрэднае міраадчуванне: усё, што яны бачаць, выклікае яркія рэакцыі. А тыя нараджаюць цікавыя вобразы.

Вырабы Аляксандра Сарокіна ёсць не толькі ў раёне, але і за мяжой. Калі дзеці, якія едуць на аздараўленне, звяртаюцца па сувенір, майстар ім не адмаўляе:

– Бярыце, калі ласка. Мне прыемна, калі людзі усміхаюцца і ў іх добры настрой. І я стараюся яго падтрымаць: ад гэтага і мне больш задавальнення.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МЕДЫЦЫНА

# З Куранца ў Вілейку

**ВІЛЕЙКА. 1 лістапада Куранецкі скурвендыспансер, які цяпер будзе прымаць хворых з Валожына, Маладзечна, Мядзела, пераедзе ў Вілейку.**

Для яго выдзелены памяшканні ў будынку, частку якога займае аддзяленне "хуткай дапамогі". Да канца кастрычніка рамонт пакояў павінен закончыцца, і персанал разам з хворымі пераедзе на новае месца. Гэта падзея выклікае неадназначнае стаўленне і ацэнку жыхароў горада, хоць скурвенхваробы не з'яўляюцца віруснымі.

Галоўны ўрач Куранецкага скурвендыспансера **Тамара Мількота** лічыць, што рашэнне аб пераездзе мае аб'ектыўныя прычыны.

Па-першае, будынак дыспансера ў Куранцы вельмі стары і не адпавядае санітарным нормам. У палатах холадна, бо ацяпленне пячное. Складана не толькі арганізаваць правядзенне фізіяпрацэдур для хворых, але і проста прыняць душ – вада награецца ў тытане ёмістасцю 30 літраў.

Па-другое, у Мінскай вобласці рэзка знізілася захворванне на пранцы (сіфіліс). Дыспансер стаў завялікі для цяперашняга ўзроўню захворванняў.

Па-трэцяе, утрыманне скурвендыспансера ў Куранцы нерэнтабельнае. Вялікія выдаткі цягне транспарт. Усе аналізы робяцца ў Вілейцы, прадукты таксама завозяцца з Вілейкі. Акрамя гэтага, у выніку пераезду зменшыцца штат супрацоўнікаў.

У дыспансеры будзе 40 ложкаў, з якіх 10 прыйдзецца для венерычных хворых.

Між тым частка жыхароў горада ставіцца да пераезду скурвендыспансера адмоўна. Асаблівай катэгарычнасцю да з'яўлення новых суседзяў выдзяляюцца супрацоўнікі аддзялення "хуткай дапамогі". Сярод аргументаў гучаць розныя разважанні – ад таго, што могуць быць выпадкі крадзяжоў хворымі, да небяспекі заразіцца. Негатыўную рэакцыю выклікае не толькі суседства скурвендыспансера менавіта з аддзяленнем "хуткай дапамогі", але і размяшчэнне яго ў самым цэнтры горада.

Галоўны ўрач Тамара Мількота не раздзяляе апасенняў і страху апанентаў пераезду скурвендыспансера ў Вілейку і ад імя персанала дыспансера гарантуе бяспеку для жыхароў горада. Самае важнае, лічыць Тамара Міхайлаўна, што палепшыцца ўтрыманне хворых.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ СЕРЫЯ «ВЕК»

# Стваральнік гісторыі

## Заснавальніку Маладзечанскага інстытута цяпер за 90. Ён жыве ў Германіі

**Дзесяць год назад гэты чалавек ступіў на маладзечанскую зямлю. Праз палову стагоддзя выгнання. Знакамітым і ў вышэйшай ступені адукаваным. Каб паглядзець на мясціны, дзе працаваў і жыў. Размова пойдзе пра Барыса Кіта.**

Зараз яму за дзевяноста і жыве ён у Франкфурце-на-Майне. Свой маладзечанскі перыяд жыцця Барыс Кіт апісаў так:

...Воляю лёсу і мне прыйшлося паўдзельнічаць у гісторыі. Пастараюся вам хоць трохі апавесці... Наогул у перыяд з 1941 па 1944 год я займаў тры пасады:

**1941 г.** – настаўнік матэматыкі ў пачатковай школе мястэчка Лебедзева,

**1942 г.** – дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Маладзечне,

**1943-1944 гг.** – дырэктар адміністрацыйна-гандлёвага інстытута ў горадзе Маладзечна.

Трэба адразу ўспомніць, што нацысцкія законы забаранялі беларусам як "унтэрмэншам" (непаўнавартым людскім істотам) адчыняць агульнаасветніцкія школы (гуманітарнага напрамку, з моваmі, гісторыяй, літаратурай г.д.), а таксама гімназіі і універсітэты. Дазвалялася адчыняць толькі пачатковыя і сярэднія школы прафесійнага тыпу, такія, як настаўніцкія семінарыі, гандлёвыя школы і г.д. Непаслухмянасць законам жорстка каралася турмой, лагерам, расстрэлам.



Барыс Кіт на вуліцы Франкфурта-на-Майне. Жнівень 2002 года.
Фота з архіва Барыса КІТА.

### Семінарыя

Пасля нядоўгай работы ў 1941 годзе ў Лебедзеве, я быў выкліканы ў Маладзечна школьным інспектарам Яворскім (пасля вайны высланы ў Сібір), разам з якім мы вырашылі заснаваць настаўніцкую семінарыю, дзе я мусіў быць дырэктарам. Думка прадоўжыць слаўную традыцыю яшчэ даўніх часоў (тады ў Маладзечне існавала таксама вядомая настаўніцкая семінарыя) дапамагла вырашыць і атрымаць дазвол ад нямецкіх уладаў на адкрыццё школы. Яворскі і я паехалі разам у Мінск, у школьны аддзел генерал-камісарыяту Беларусі, дзе кіраўніком у той час быў нейкі немец Сівіца, а яго беларускім дарадчыкам Яхім Скурат (мой універсітэцкі калега з часоў, калі мы вучыліся яшчэ ў Вільні).

Дазвол атрымалі хутка, і задаволеныя вярнуліся ў Маладзечна, дзе я як дырэктар пачаў будаваць школу з вялікай дапамогай Яворскага.

Работа пачалася з надрукавання абвесткі аб адкрыцці школы, што была зроблена ў мясцовай маладзечанскай друкарні, атрымання ад горада будынка, рэгістрацыі вучняў, склікання настаўніцкага персаналу і г.д.

Ужо ў кароткі тэрмін галоўная частка работы была выканана. Мы мелі вялікі поспех, моладзь гарнулася да навукі, калі раптам ад раённага нямецкага камісара Шмідта прыйшоў загад зачыніць школу.

Справа ў тым, што апроч дазволу з Мінска належала мець таксама дазвол з Вілейкі – раённых уладаў. Шмідт вельмі ўзлаваўся, што мы яго абышлі. На жаль, мы гэтага не ведалі і ў Мінску нам не паведамілі, што трэба мець пагадненне і ад яго.

Шмідт хутка прыехаў у Маладзечна, зачыніў друкарню, што зрабіла абвесткі, забег у школьны інспектарат Яворскага, каб афіцыйна зачыніць школу, і пытаўся пра мяне, дзе я ёсць, каб, магчыма, арыштаваць. Пачуўшы ўсё гэта, я неадкладна паехаў у Мінск, каб паведаміць Сівіцу і Скурату аб усім, што здарылася.

Ну і што сказалі яны? Мы не можам ісці супраць гебітскамісара Шмідта. Хай будзе так, як ёсць, а каб вас выратаваць з усёй гэтай сітуацыі, дык пашлём вас адразу дырэктарам настаўніцкай семінарыі ў Паставы. Яна там ужо працуе.

Праз некалькі месяцаў маёй работы ў Паставах прыйшла вестка ад Яворскага: "Шмідт згадзіўся на гандлёвую школу ў Маладзечне. Прыязджай і будзь дырэктарам".

### Турма

Пасля месячнага сядзення ў глыбоцкай турме, у самых жудасных умовах, мяне ў ланцугах перавезлі на далейшае даследаванне ў вілейскую турму, дзе знаходзілася цэнтральнае гестапа.

Я меў вялікае шчасце, што галоўным беларускім дарадчыкам гебітскамісара ў Вілейцы быў тады Кастусь Касяк, мой былы вучань з Віленскай беларускай гімназіі. Ён быў найлепшым вучнем матэматыкі ў мяне. Калі я захварэў і ляжаў два месяцы ў шпіталі, дык ён замяняў мяне як настаўнік матэматыкі. Пачуўшы аб маёй бядзе, ён усё зрабіў, каб мяне вызвалілі з турмы (па чутках пасля прыходу Савецкай Арміі ён быў павешаны на плошчы Вілейкі).

Вызваліўшыся з турмы, я пасля кароткага адпачынку з'явіўся ў Маладзечне, каб выконваць свае абавязкі, цяпер як дырэктара гандлёвай школы.

### Вяртанне настаўніка

Пра гэтую школу шмат успаміналі мае былыя вучні: **Кастусь Харашэвіч** – сёння выдатны мастацкі дзеяч і сам мастак у Маладзечне і Пётра Кузюковіч – акадэмік і прафесар медыцыны ў Мінску...

...Ведаючы, што немцы не шмат умешваліся ў беларускія школьныя справы, бо два гады да мяне ніхто не прыходзіў на інспекцыю з немцаў, я вырашыў правесці пэўныя мерапрыемствы, што былі накіраваныя супраць нямецкіх законаў.

Папярэдне даў школе даволі гучную назву: "Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут", што фігуравала на ўсіх дакументах, вучнёўскіх пропусках, пасведчаннях, друкаваных на дзвюх мовах: беларускай і нямецкай. Гэта дапамагло нашым выпускнікам паступаць ва універсітэты за мяжой (прыклад: выдатны навуковец з Амерыкі, доктар Яўген Вярбіцкі з Краснага).

Далей я выпрацаваў праграму школы, якая сапраўды стаяла вышэй узроўню сярэдняй школы. Апроч адміністрацыйных і гандлёвых прадметаў, я уключыў сюды агульнаадукацыйныя, гуманітарныя (што забараняліся немцамі). Гэта значыць, мову, літаратуру, гісторыю і г.д. У кароткі час сабраў кваліфікаваны настаўніцкі персанал (бо ў той час шмат хадзіла без работы).

Каб адплаціць настаўнікам за працу, я загадаў бацькоўскаму камітэту, каб кожны бацька, калі можа, зрабіў складку: 1 кіля сала і 1 пуд жыта. Падзелам займаліся бацькі і настаўнікі, і яны былі гэтым задаволеныя.

Настаўніцкі персанал сабраўся выдатны: напрыклад, доктар Дзімітрыеў — эканаміст (мой першы намеснік па гандлёвай праблеме), Янка Давідовіч (мой другі намеснік па гуманітарнай часткі) — выдатны знаўца беларускай мовы і літаратуры, дый усёй гуманістыкі. Далей ідуць настаўнікі Вяршыцкі, Магер (намеснік Яворскага), Пагуда, Калачоў, Камароўскі, Макарэвіч і г.д., можа да 50. Вучняў жа было больш за 300. Займаліся ў дзве змены. Школа ратавала людзей ад вывазу на прымусовую работу ў Нямеччыне, а я рознымі спробамі ратаваў іх ад цяжкасцей, як, напрыклад, капанне акопаў і г.д.

Школа існавала да самага прыходу Чырвонай Арміі ў ліпені 1944-га. Яшчэ перад самым канцом, калі мне прыйшлося быць у Мінску, я зайшоў да Скурата ў школьны аддзел, начальнікам быў ужо не Сівіца, а новы немец Пуст. Скурат спаткаў мяне з закладаным тварам і сказаў: "Барыс, добра, што ты прыйшоў, бо маю для цябе вельмі сумныя навіны. Пуст нарэшце прачытаў праграму тваёй школы і адразу ўзбясіўся. Прыбег у мой пакой, крычаў, стукаў кулакамі па стале і сказаў, што гэты Кіт, парушыўшы законы, адчыніў тут цэлы універсітэт. І з сённяшняга дня я яго зачыняю, і ён больш не існуе".

У гэты час пачалося агульнае адступленне немцаў на захад. Я вырашыў, што ў сябе ў школе я не буду рабіць панікі, буду рабіць выгляд, што ўсё ідзе нармальна. Нічога не сказаў ні вучням, ні настаўнікам. Ужо быў канец навучальнага года. Зрабілі належныя экзамены, адзначылі ўрачыста заканчэнне школьнага года. Вучні атрымалі пасведчанні і дыпломы і паехалі дахаты. Я таксама паехаў на Захад, на эміграцыю...".

### Дарога на Захад

Дарога на Захад была цяжкай. Кім яму толькі не даводзілася працаваць. Але матэматычныя веды і тут дапамаглі. Ён спалучыў матэматыку і хімію, і Амерыка атрымала новы падручнік па ракетным паліве, які карыстаюцца да гэтай пары. Пасля займаўся рэалізацыяй запуску амерыканскай станцыі на Месяц і праектам "Шатл". Хапала энергіі і на грамадскую дзейнасць – дапамагаў эмігрантам з Беларусі ўсталявацца ў Амерыцы. Каб пералічыць ягоныя ганаровыя званні, не хопіць гэтай паласы...

Больш падрабязна вы зможаце даведацца пра яго з кнігі Лідзіі Савік "Космас беларуса". Там ёсць усё, але падрабязна маладзечанскі перыяд жыцця ён апісаў мне сам. У лісце. Хоць яму за 90 ужо.

Барыс Уладзіміравіч Кіт сваёй дзейнасцю праславіў Беларусь, беларускую нацыю. Ён да адпачынку выконваў сваю, богам дадзеную місію, — вучыў. Прыйшоў час навучыць нас. І настаўнік вярнуўся. Хоць стомлены, але дадому.

**Падрыхтаваў Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ГАСЦЁЎНЯ

# Асветнік Барыс Кіт: мае праекты ў Беларусі спыніліся

Спецыяльна для "Рэгіянальнай газеты" Барыс Кіт адказаў па пошце на нашыя пытанні:

**— Сёння людзі з'язджаюць з краіны, шукаючы шчасце ў свеце. Ці варта? Ці ёсць патрэба ў гэтым?**

— Цяперашні час вельмі цяжкі ва ўсім свеце і неспрыяльны на эміграцыю, але калі ёсць магчымасць змяніць да лепшага сваё жыццё, дык трэба рабіць.

**— Ваш прыклад здзіўляе: прасты адукаваны чалавек дабіўся велізарных поспехаў у ЗША. Гэта можа кожны? Ці гэта частка прапаганды заходняга ладу жыцця?**

— Мой лёс у ЗША – гэта прыклад поспехаў дэмакратычнай і вольнай чалавечай сістэмы. Таму гаворыцца, што ЗША – гэта краіна неабмежаваных магчымасцей.

**— Ці дапамагла Вам тэхнічная адукацыя? Кім сталі людзі гуманітарнага накірунку?**

— Мне найбольш дапамагла матэматыка. Цяпер усе найважнейшыя праекты пачынаюцца з працы матэматыкаў. Так і падарожжа на Месяц пачалося з разлікаў матэматыкаў. Людзі гуманітарнага накірунку не мелі такіх магчымасцей, як мы.

**— Вашыя адносіны да бальшавізму, былой сістэмы? Што гэтая ідэя азначае менавіта для Вас? Ці Вы — палітычна абыякавы чалавек?**

— Бальшавізм, а таксама фашызм, а сёння ісламскі радыкалізм ці тэрарызм – гэта самыя вялікія няшчасці чалавецтва. Нядаўна выйшла французская кніга "Чорная карта камунізму", у якой гаворыцца, што фашызм загубіў 50 мільёнаў чалавек, камунізм – 100 мільёнаў, а тэрарысты загубяць яшчэ больш.

**— Які стрыжань у жыцці дапамог Вам выстаяць у замежжы і застацца верным справе Адраджэння ўсе гэтыя доўгія гады?**

— Кожны чалавек нараджаецца з пазітыўнымі пачуццямі, якія альбо знішчаюцца пазней, альбо развіваюцца далей. Але мы маем нейкае сумленне, любоў да радзімы. Кожны сумленны беларус павінны быць верным справе Адраджэння Беларусі назаўсёды. На жаль, у нас гэтая справа пастаўлена дрэнна.

**— Што значыла сям'я падчас працы і пасля яе? Дзе зараз дзеці? Чым займаюцца? Ці яны большыя амерыканцы за бацьку?**

— Мая сям'я ў ЗША значыць для мяне вельмі многае, так і павінна быць. Мае сыны займаюць вялікія пасады ў Амерыцы і разам са мной вялікія патрыёты сваёй Бацькаўшчыны — ЗША. Я вельмі ганаруся, што я – амерыканец, грамадзянін найслаўнейшай краіны свету.

**— Прыехаўшы ў Беларусь, Вы паспрабавалі адкрыць шэраг універсітэтаў. На якім этапе цяпер гэты праект і з чым гэта звязана?**

— Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі я хацеў дапамагчы, але калі ўсе падзеі пасля 1999 года пайшлі ў дрэнным напрамку, дык усе мае праекты спыніліся.

**— Вы заўсёды былі ўбаку ад палітыкі. А якое Вашае жыццёвае крэда?**

— Сапраўды, я заўсёды стаяў у баку ад палітыкі, што і выратавала мяне ад непрыемнасцей у жыцці. Я заўсёды быў асветнікам (15 год на Беларусі і 30 – у Амерыцы) альбо даследчыкам астранаўтыкі (30 год у ЗША). Маё жыццёвае крэда – дапамагаць людзям, усяму свету і дапамагаць Беларусі ў яе змаганні за свабоду і незалежнасць, за ўтрыманне суверэннасці і стварэнні парадку па прыкладу дэмакратычных дзяржаў Захаду.

**— Гледзячы на здымкі, бачым Вас у добрай форме. Як дасягнуць доўгажыхарства? Гэта фізкультура, рэжым, харчаванне?**

— Доўгажыхарства ўключае ў сябе шмат усяго. Гэта і фізкультура, і рэжым, і правільнае харчаванне, і інтэлектуальнае дзеянне, і паходжанне (гены), і сумленне.

**— Эмігрыруючы звычайна не назаўсёды. Вы таксама пагляд зелі на радзіму. Якія ўражанні ад убачанага? Не хочацца вярнуцца?**

— Эміграцыя прынесла мне шчаслівае і цікавае жыццё. Я прывык жыць у найбольш цывілізаваных умовах, якія я не хачу змяняць на горшае.

**— Матэматыка і астранаўтыка – дзве розныя галіны навукі. Вам у іх аб'яднанні дапамог талент, выпадак, лёс? Што ж іх звязала?**

— Астранаўтыка пабудавана на матэматыцы. Мне як матэматыку было лёгка пераключыцца на астранаўтыку. Нас усіх захапіла гэтая слаўтая навука. Безумоўна, заўсёды адыгрывае сваю ролю лёс і выпадак. Я трапіў у адпаведнае месца і ў адпаведны час. І з гонарам сёння магу назваць сябе адным з першапраходцаў амерыканскай астранаўтыкі.

**— Чым жыве наш ганаровы суайчыннік: дзе бываеце, што чытаеце, якому адпачынку аддаеце перавагу?**

— Сёння жыву жыццём пенсіянера. Пішу, чытаю, падтрымліваю сувязь з сябрамі ва ўсім свеце, падарожнічаю, наведваю сваю сям'ю ў ЗША і ўсіх прыяцеляў у Еўропе. Прымаю ўдзел у дзейнасці маёй Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі. Дапамагаю беларускім пісьменнікам у напісанні маёй біяграфіі.

**— І зрабіце, Барыс Уладзіміравіч, пажаданне ўсім беларусам у гэткі незразумелы і хуткацечны час.**

Жадаю імкнуцца дасягнуць поўнай нацыянальнай свядомасці на Беларусі. Утрымаць суверэннасць беларускай дзяржавы. Змагацца за вольную, незалежную, дэмакратычную Беларусь. Жадаю Вам поспехаў і шчасця.

**Пытанні задаваў Алесь РАЛАВЕЦ.**

# Тайны муроў Вілейскай турмы

**На вуліцы Першамайскай у Вілейцы ўзвышаецца гмах анкалагічнай бальніцы. Але мясцовыя жыхары часцей гэты будынак называюць турмой. І для гэтага ёсць падставы. У шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя нейкаму чыноўніку прыйшла ў галаву дзікая думка: замяніць нары асуджаных у Вілейскай турме на бальнічныя ложкі. І праект ажыццявілі. Будынак з сумнай, а калі больш дакладна гаварыць, крывавай гісторыяй. Паўтары сотні год ён наводзіць жах на мясцовых жыхароў.**



Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

## Турма будавалася па «нармальным праекце»

Старая легенда вуснамі пакаленняў, а затым і старонкамі некаторых кніг паведамляла, што пасля таго, як у 1795 годзе, па ўказу расійскай імператрыцы Кацярыны II, Вілейка стала павятовым горадам, яна неўзабаве прыехала сюды, пасадзіла некалькі бяроз на названым яе імем шляху і залажыла першы камень у падмурак будучага астрога.

На самой справе акалічнасці ўзвядзення ў Вілейцы найстарэйшага і нядрэнна захаваўшагася архітэктурнага збудавання зусім іншыя. 30 ліпеня 1846 года імператарам Мікалаем I быў зацверджаны "Нармальны праект турэмнага замка ў павятовых гарадах на 100 арыштантаў". 2 лютага 1848 года ў Вілейскай губерні быў устаноўлены асобы земскі збор на 12 гадоў на абсталяванне будынкаў для дзяржаўных установ і турмаў. І неўзабаве з боку Міністэрства ўнутраных спраў паступае загад Віленскаму генерал-губернатару аб неабходнасці ў першую чаргу замест зусім старых драўляных узвесці новыя мураваныя астрогі ў Дзісне і Вілейцы. Тлумачылася гэта тым, што існуючы ў Вілейцы турэмны замак цалкам спарахнелы і цесны, нязручны ў размяшчэнні арыштантаў і ўжо не паддаецца рамонту.

Быў зроблены праект і складзены каштарыс на 49610 рублёў 17 капеек срэбра. Пазней гэтую суму зменшылі да 45232 рублёў 83 капеек. Аднак з-за недахопу грашовых сродкаў будаўніцтва камяніцы на былой Нарочкай вуліцы паміж горадам і прыватнымі гарадскімі могілкамі пачалося толькі 16 красавіка 1854 года і працягвалася на працягу трох летніх перыядаў. У працэсе работ здараліся і непрадбачаныя выпадкі. Так, пры капанні катлавана пад калодзеж на тэрыторыі турмы высветлілася, што вада знаходзіцца на значнай глыбіні, а пясчаны грунт пастаянна асыпаецца і можа нават прывесці да разбурэння падмурка асноўнага збудавання. Пасля некаторых даследаванняў вырашана было выкапаць студню ў падножжы гары на незасеяным гарадскім выгане за агароджай астрога на адлегласці ў 47 сажняў (100 м).

Вядзенне будоўлі было аддадзена з таргоў у аптовы падрад Віленскаму купцу 1-й гільдыі Хаіму Англіну. Праз год ён памірае. А таму закончыць работы вымушана была давальніца залогу, паверанная калежская дарадчыца Юзэфа Шкульцецкая. Яна з гонарам выканала ўскладзеную на яе місію, і 1 кастрычніка 1856 года будаўніцтва турэмнага замка было закончана. Аднак у сувязі з капаннем новага і засыпкай старога калодзежа, з падноскай на месца работ вады была зрасходавана дадатковая сума грошай. І толькі 30 лістапада 1863 года 129 рублёў 39 1/2 капейкі былі вернуты падрадчыку.

## Першыя арыштанты

Хутка ў астрозе з'явіліся яго першыя "наведвальнікі", і ў яго двары, абнесеным высокай каменнай агароджай, можна было назіраць даволі дзіўнае зборышча разнастайных людзей: канакрадаў, жулікаў, спіўшыхся чыноўнікаў, бадзяг і катаржнікаў, збеглых з руднікоў. Паўсюдна ішоў торг рознымі таварамі, што нагадвала базар.

На турэмнай тэрыторыі размяшчаліся кватэра наглядчыка, лазня, лядоўня, адзінокія двары. У падвале астрога знаходзіліся пральня, гаўптвахта, кватэра вартаўнікоў, кладоўкі, ванна, кухня, пякарня, пакой для прыёму арыштантаў. На першым паверсе месціліся 6 адзіночных камер, 8 камер для зняволеных па судоваму прыгавору малаважных злачынцаў з дваран і простых людзей, перасыльных арыштантаў, а таксама лазарэт і рэтырады (умацаванні).

На другім паверсе былі камеры, падобныя на камеры першага паверха для арыштантаў-жанчын, лазарэт, аптэка і рэтырады.

Унутры турмы жыццё таксама было шумнае. Зняволеныя сланяліся без справы па калідорах, тоўпіліся ля лазарэта, жаночага аддзялення. Паблізу арыштанцкай кухні ўстройваліся "майданы" і "клубы па інтарэсах". Паступова ў турмах наладжвалася як рэлігійнае выхаванне, так і школьнае навучанне. Да канца XIX стагоддзя сталі там з'яўляцца і бібліятэкі.

Умовы ўтрымання зняволеных, асабліва палітычных, у турмах Расійскай імперыі былі даволі нядрэнныя. Так Ф.Э.Дзяржынскі, маючы за сваімі плячыма дзве ссылкі з уцёкамі адтуль, пры трэцім арышце быў змешчаны ў Варшаўскую цытадэль. У лісце да брата адзначаў: "... камера вялікая – 5х7 крокаў, вялікае акно з гранёным шклом, яда прыстойная, крыху малака падкупляю сам. Прагулка 15 хвілін. Бібліятэка. Пакупка два разы на тыдзень. Пісьмы – паўпаштовага лісціка ў тыдзень. Ванна (раз у месяц). Сяджу пакуль адзін...".

### Сутачны нядзельны і святочны рацыёны

**Абед**

У лапшу:
вермішэлі ............ 24 залатн. (102,24 г);
мяса 2-га гатунку .. 30 залатн. (127,8 г);
круп ячных ................ 2 залатн. (8,52 г);
солі ......................... 4 залатн. (17,04г).
У кашу:
круп грэцкіх ........ 32 залатн. (136,32 г);
сала паляндвічнага .... 5 залатн. (21,3 г);
солі ......................... 2 залатн. (8,52 г);
хлеба чорнага ............ 2 фунты (819 г).

**Вячэра**

Крупы грэцкія ....... 17 залатн. (72,42 г);
сала філейнае ........... 2 залатн. (8,52 г);
соль ......................... 1 залатн. (4,26 г).

Згодна са "Зборнікам узаконенняў і распараджэнняў па турэмнай часці" (1903 год), харчаванне зняволеным на той час выдавалася на 37 капеек у суткі, што дазваляла рыхтаваць някепскія пайкі.

Тыднёвы турэмны рацыён арыштанта царскай Расіі складаў: хлеба – 5730 г, кашы і круп – 1680 г, сала і мяса – 760 г, агародніны – 810 г, мукі – 85 г. У будныя дні на абед падаваліся вараная капуста ці гарохавы суп і іншыя харчовыя кампаненты.

Ды і турмы таго часу не былі перанаселенымі. Многія астрогі і наогул былі паўпустыя. У сярэдзіне 50-х гадоў XIX стагоддзя на 53 асуджаныя прыходзілася 47 вызваленых. Толькі ў гады нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага (1863-64 г.г.) беларускія турмы даволі хутка папаўняліся.

У тыя грозныя дні першай рускай рэвалюцыі дастаўляліся сюды арыштанты Даўгінаўскага бунту, агітатары, распаўсюджвальнікі забароненай літаратуры, пракламацый з Куранца, Смаргоні і іншых месцаў. Адбывалі тут пакаранне і сем матросаў з мяцежнага браняносца "Пацёмкін". Прозвішчы двух вядомыя – Іваноў і Голікаў. Нашчадкі апошняга і цяпер жывуць у Вілейцы.

Адміністрацыйна пакаралі тут трохмесячным арыштам у 1906 годзе маладога настаўніка з Вілейшчыны Сымона Рак-Міхайлоўскага за распаўсюджванне нелегальнай літаратуры, прывезенай з Пецярбурга ў час наведвання яго ў якасці хадака ў Дзяржаўную Думу.

### У неспакойным 1905 годзе ў Вілейскай павятовай турме арыштантаў не зменшылася

| Катэгорыя арыштантаў | На 1.01.1905 г. | На працягу 1905 г. прыбыло | На працягу 1905 г. выбыла | На 1.01.1906 г. |
|---|---|---|---|---|
| Падследныя | 32 | 154 | 132 | 54 |
| Тэрміновыя | 33 | 24[illegible] | 242 | 37 |
| Перасыльныя | – | 75 | 74 | 1 |



## Падмурак польскай дзяржаўнасці грунтаваўся на тэроры мясцовых жыхароў

У гады першай сусветнай вайны ў Вілейцы размяшчаўся армейскі корпус Заходняга фронту, іншыя ваенныя установы і воінскія часці. Летам 1917 года сюды прыязджаў вярхоўны галоўнакамандуючы часовага ўрада А.Керанскі з мэтай угаварыць на мітынгу салдат працягваць вайну да пераможнага канца. Аднак шмат было незадаволеных непатрэбным кровапраліццем, якія заяўлялі аб гэтым уголас і апыналіся за кратамі мясцовай камяніцы. Не пуставала яна і ў гады грамадзянскай вайны, часовых нямецкай і польскай акупацый краю ў 1918-1920 гадах, мяняліся толькі шыльды ад "Город. Тюрьма" да "Wikzienie". Апошняя і сёння ў сырое надвор'е выступае з-пад тынкоўкі.

Новы ўздым нацыянальна-вызваленчай барацьбы адбыўся на Вілейшчыне ў гады беларускай акупацыі 1921-1939 г.г. Паўсюдна пачалі арганізоўвацца розныя палітычныя гурткі, мясцовыя арганізацыі Таварыства беларускай школы, Беларускай сялянска-рабочай грамады, ячэйкі КПЗБ.

Галоўным метадам кіравання польскіх уладаў у Заходняй Беларусі быў прымус, а часам і тэрор. Турмы і Бяроза-Картузскі канцэнтрацыйны лагер, створаны для ізаляцыі "грамадска-небяспечных элементаў", былі перапоўнены палітвязнямі.

Паліцыя неаднаразова арыштоўвала і саджала ў Вілейскую турму такіх змагароў за народнае шчасце, як ўдзельнікаў выступлення 1935 года нарачанскіх рыбакоў, а таксама Мікалая Мацюшу з Каралеўцаў, Міхаіла Хадзінскага з Астравоў, Піліпа і Андрэя Валынцоў з Жаўткоў, Паўла Гаўрыліка, Уладзіміра і Аляксандра Каляды і Рыгора Усціновіча з Вілейкі, Антона і Аляксандра Круцькаў і Серафіма Ількевіча з Цынцавічаў, Канстанціна Зубовіча (пасля Герой Савецкага Саюза), Лізавету Дварэцкую з Лебедзеўскай гміны, якая пасля вайны была дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

У той час некаторыя турэмныя камеры, у тым ліку № 16, 17 і 18, былі адведзены для палітзняволеных. У 1934 годзе ў іх адбывалі пакаранне А.Садоўскі з Вілейкі, а таксама вядомы дзеяч рэвалюцыйнага падпольнага руху Заходняй Беларусі паэт Валянцін Таўлай. Іх лёс у розныя гады раздзяліліі такія паэты і пісьменнікі, як Алесь Дубровіч, Ганна Новік, Андрэй Капуцкі і іншыя.

Камера №16 стала часовым "прытулкам" для палітвязняў Сцяпана Бурака з Мойсічаў Маладзечанскага раёна і Андрэя Валынца (пазней Герой Савецкага Саюза). Каб зламаць дух патрыётаў, Валынца пераводзяць у камеру-адзіночку.

Па ўспамінах тых жа вязняў Вілейскай турмы, умовы ўтрымання іх за кратамі спачатку былі больш-менш цярпімымі. Так А.Садоўскі расказваў пра 1934 год і В.Таўлая: " Пры зняволенні дні цягнуліся вельмі марудна, і, каб не марнаваць дарма часу ў турме, вырашана было вучыцца. Таўлай займаўся з намі па палітэканоміі, гісторыі Камуністычнай партыі СССР, літаратуры. Мы мелі права трымаць у камерах пісьмовыя прылады. Усе свае веды з гімназіі і падпольнага жыцця ён аддаваў таварышам па барацьбе. У Вілейскай турме ён пачаў пісаць сваю паэму "Мы аптымісты". Малапісьменных таварышаў ён вучыў граматыцы, арфаграфіі, гісторыі, геаграфіі і іншым навукам. Калі хто-небудзь з таварышаў хварэў, то ён загадваў падтрымліваць яго лепшымі харчамі. За невыкананне загаду адміністрацыя мяне кінулі зімой у карцэр. Дзякуючы Таўлаю мяне выпусцілі праз чатыры гадзіны. Ён прад'явіў адміністрацыі ўльтыматум: "Калі не выпусціце таварыша з карцэра за 4 гадзіны, то ўсе вязні закладаюць галадоўку ў знак пратэсту". Шырокай душы быў падпольшчык-паэт".

Пасля паэнага тэрміну адсідкі вязняў Вілейскай турмы перапраўлялі ў іншыя камяніцы, у тым ліку і сумна вядомыя віленскія "Лукішкі". Адзін з удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Р.Мухамухноўскі, які некаторы час знаходзіўся там пад следствам, у сваіх мемуарах адзначаў, што камера, у якой ён утрымліваўся пад арыштам, была невялікая: сем крокаў у даўжыню і тры ў шырыню. Жалезны ложак прыкаваны да сцяны, на ім — саламяны матрац, падушка, дзве прасціны з коўдрай. На снеданне падавалі каля паўкіло чорнага чэрствага хлеба, кусок іржавага сялядца, кружку чорнай ячменнай кавы. На абед – суп з ячнымі крупамі, запраўлены старым прагорклым салам, невялікая порцыя той жа ячнай кашы, палітая смярдзючым тлушчам. На вячэру былі селядзец з кіслай капустай і шклянка кавы.

Па ўспамінах тых жа сведкаў, у турмах прымяняліся і меры фізічнага пакарання. Ганна Новік пісала пазней, што "Мы маўчалі, хаця нас білі бізунамі, засоўвалі пад пазногці іголкі, зашчэмлівалі пальцы рук у дзверы, з дапамогай спецыяльных прыстасаванняў улівалі праз нос ваду ці газу. Не вытрымаўшы катаванняў мой таварыш па падполлю Платон Шляпа, яму адбілі лёгкія. Юнак памёр".

Ніна Паўлаўна Жоўтка з Цынцавічаў згадвала, што прысутнічала ў час вывазу з Вілейскай турмы ў "Лукішкі" ў 1935 годзе яе родзіча, кіраўніка Цынцавіцкай арганізацыі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі Мікалая Петрыкевіча. Апрануты ён быў у добры цывільны касцюм, але рукі былі чорныя ад катаванняў. Як высветлілася пазней, Мікалай Рыгоравіч на допытах сваёй віны не прызнаў і таварышаў не выдаў.

# Памятаюць аб Вілейцы ў Варшаве




**17 верасня 1995 года ў цэнтры Варшавы ў выглядзе фрагмента чыгуначнага палатна і адкрытай чыгуначнай платформы з надмагільнымі крыжамі паўстаў помнік тым, хто загінуў пасля 17 верасня 1939 года. Дэпартацыя былых грамадзян Польшчы – не толькі гісторыя краіны над Віслай. Няма дня, каб ля помніка не ляжалі свежыя кветкі. Дзесяткі гарадоў з усходу ўпісаныя на помніку ў крывавы мартыралог. І першым з гэтых гарадоў значыцца Вілейка.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# Вязніца на Першамайскай не пуставала ніколі

**17 верасня 1939 года прынесла збаўленне вязням Вілейскай турмы, але доўга яна не пуставала. З'явіліся новыя катэгорыі зняволеных – "ворагі народа", "контррэвалюцыянеры" і з іншымі сфабрыкаванымі фармулёўкамі.**

У сувязі з перадачай Вільні Літве, калі многіх зняволеных з Лукішкаў пераводзілі ў іншыя савецкія турмы, частка іх апынулася і ў Вілейцы. Такі лёс напаткаў старшыню Саюза яўрэйскіх журналістаў і літаратараў Вільні, аднаго з заснавальнікаў розных яўрэйскіх навучальных устаноў, названага "піянерам і стваральнікам падмурка лексікаграфіі яўрэйскіх пісьменнікаў" Залмана Рэйзена. Арыштаваны 1 кастрычніка 1939 года, затым яго перавялі ў Вілейку. Загінуў, хутчэй за ўсё, на этапе.

Асаблівае месца ў беларускай гісторыі займае Антон Луцкевіч, лінгвіст, гісторык, грамадскі і палітычны дзеяч. Ён быў старшынёй Рады народных Міністраў і міністрам замежных спраў абвешчанай 25 сакавіка 1918 года незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. 30 верасня 1939 года быў арыштаваны па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай барацьбе і ўтрымліваўся пад следствам у Вілейскай турме. Сляды яго згубіліся ў час эвакуацыі вязняў у чэрвені 1941 года.

Падобнае здарылася і з першым рэдактарам "Нашай Нівы", "Сахі", "Лучынкі" і іншых зборнікаў, сенатарам польскага сейма нашым земляком Аляксандрам Уласавам.

Арыштоўваліся ў Вілейцы і сядзелі тут у астрозе публіцыст, філосаф-эстэтык Уладзімір Самойлаў, прафесар, аўтар многіх кніг па гісторыі Вілейшчыны і Мядзельшчыны Францішак Сяліцкі, ураджэнец в.Мікуліна (каля Даўгінава). У адной са сваіх кніг Ф.Сяліцкі апісвае жудаснае ўтрыманне ў Вілейскай турме арыштантаў у перыяд 1939-41 гадоў. Камеры былі перапоўненыя, есці давалі слаба, амаль паўгода не было ні мыцця, ні дэзінфекцыі. Сярод арыштаваных можна было бачыць адвакатаў, пекараў, суддзяў, святароў, нават быў рэктар Віленскага універсітэта.

Пасля 17 верасня 1939 года ліміт Вілейскай турмы значна павялічыўся і складаў 350 чалавек. Аднак на самой справе колькасць арыштантаў перавальвала за тысячу. Камеры літаральна былі набіты зняволенымі, як селядцы ў бочцы.

У ноч на 23 чэрвеня па тэлефоне было атрымана распараджэнне аб эвакуацыі турмаў Вілейскай вобласці. З мясцовай турмы для перамяшчэння ў Разанскую турму №1 было падрыхтавана 1023 чалавекі.

Ф.Сяліцкі далей успамінаў, што 24 чэрвеня папоўдні быў атрыманы незвыклы загад – хутка паесці і пастроіцца на пляцы з усімі рэчамі. Ахова ўстрывожаная хадзіла побач з процівагазамі. Былі чутны недалёкія выстралы. Гэта расстрэльвалі вязняў, што не падлягалі эвакуацыі.

Калона па 5 чалавек выйшла з турмы і рушыла ў 120 кіламетровы шлях на Барысаў. Канвойныя ішлі вакол вязняў праз 5-8 крокаў адзін ад другога з прымкнёнымі штыкамі на карабінах. Саслабелых і арыштантаў на мыліцах саджалі на калёсы.

Тыя, хто дайшоў да Барысава на чацвёртыя суткі этапа, былі пасаджаны ў чакаўшыя іх 35 вагонаў. Эшалон з імі 5 ліпеня прыбыў у Разань. Усяго ў мясцовую турму былі перададзены 871 чалавек. Такім чынам, за 12 сутак дарогі ад Вілейкі да Разані, звязаная з пастаяннымі налётамі і бамбардзіроўкамі варожай авіяцыі, страціліўсяго 142 зняволеныя. Гэтыя лічбы не выклікаюць сумнення, бо ўзятыя з дакладных дакументаў НКУС. Таму неабгрунтаваныя прыведзеныя некаторымі гісторыкамі факты аб масавым знішчэнні вязняў Вілейскай турмы ў "крывавай" дарозе на Барысаў, дзе прыводзіцца лічба да 800 чалавек.

Як выказваліся відавочцы трагедыі тых дзён, адразу пасля таго, як прадстаўнікі савецкай улады пакінулі горад, шмат людзей наведала ўстанову, якую стараўся раней абмінаць. У двары турмы яны ўбачылі склеп, у якім, каб не было чуваць выстралаў ці крыкаў, органы НКУС забівалі ці душылі сваіх ахвяр. Сляды ад куль на сцяне былі заклеены ці замазаны, а падлога старанна пасыпана жоўтым пясочкам, з-пад якога праступала кроў. Вялікі натоўп людзей стаяў каля раскапанай ямы, куды былі звалены і прысыпаны свежыя трупы. Людзі плакалі.

У некалькіх дзесятках метраў ад той "дарогі смерці" каля вёсак Чыжэвічы і Касута адбыўся першы расстрэл вязняў на этапе, якіх затым паскідвалі ў бульбяныя ямы. У 1991 годзе на гэтым месцы сіламі грамадскасці быў пастаўлены помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій – між камянёў з адпаведнымі надпісамі – сімвал у выглядзе з'яднаных праваслаўнага і каталіцкага крыжоў.

Па некаторых дадзеных, знішчэнне вязняў адбывалася і на іншых участках этапа, у тым ліку і каля Плешчаніц.

Далей свае крывавыя і значна больш маштабныя і вытанчаныя справы працягвалі фашысты. Як стала вядома, толькі ў горадзе і ваколіцах Вілейкі яны знішчылі ў гады акупацыі звыш 7 тысяч ваеннапалонных, партызанаў, падпольшчыкаў і мірных жыхароў.

Сам будынак турмы немцамі не выкарыстоўваўся. Папершае, ён быў пашкоджаны напачатку вайны, а па-другое, акупанты доўга тут трымаць зняволеных не планавалі. У іх расправа наконт гэтага была хуткай. Для сваіх рэпрэсіўных мэт гітлераўцы выкарыстоўвалі новую драўляную турму СД, якая знаходзілася побач з мураванай, у двары сучаснага будынка РАУС – міліцыі. Толькі расстрэлы карнікі праводзілі на тэрыторыі старой турмы каля яе паўночнай сцяны, а трупы скідвалі ў раней падрыхтаваныя ямы. Некаторыя з іх былі яшчэ жывымі. Аднаму з такіх "расстраляных" у 1942 годзе Антону Пятроўскаму цудам удалося выжыць. Зваліўшыся ў яму параненым, куля прайшла праз шыю, увайшла ў рот і выйшла паміж зубоў, нават не выбіўшы іх, яго накрыў сабой чарговы расстраляны. Прысыпаўшы пяском магілу, паліцэйскія аддаліліся. Пятроўскі, вызваліўшыся ад цела загінуўшага, выкарабкаўся з ямы і ў цемнаце дапоўз да чыгункі, а адтуль пешшу пайшоў дадому на Мядзельшчыну. Пазней ён згадваў, што расстрэлы ў турэмным двары вялі найчасцей ахоўнікі з ліку немцаў, якія да вайны жылі ў Латвіі і вызначаліся асаблівай жорсткасцю.



Фота з альбома Анатоля Рогача.

**1948 год. Хлопцы і маладыя мужчыны з наваколля Вілейкі служылі ў ахове зноў напоўненай вязнямі турмы. Уверсе Іосіф Сямёнавіч Аўласовіч, справа – Валянцін Рогач. Абодва жыхары вёскі Каралеўцы Іжанскага сельсавета. Імя трэцяга невядомае.**

Апынуўся тут у тыя грозныя часіны і беларускі вучоны з сусветным імем Барыс Кіт. Яму ўлады дазволілі адкрыць у Маладзечне гандлёвую школу. Але па дарозе туды арыштавалі, западозрыўшы ў сувязі з партызанамі. Да высвятлення абставін даявлося сядзець месяц у Глыбоцкай, а два тыдні – у Вілейскай турмах. Кожны дзень быў сведкам, як вязняў вывозілі на расстрэл.

Часам ямы з забітымі людзьмі залівалі растворам з каўстычнай содай. І так працягвалася амаль да самага вызвалення Вілейкі.

У ліпені 1944 года ў падвале аднаго з дамоў Гродна органамі "Смерш" быў затрыманы падазроны чалавек у форме віцэ-капрала Войска Польскага. Пры далейшым разбіральцтве высветлілася, што гэта Уладзімір Іванавіч Ясінскі, былы жыхар Вілейкі, які з вясны 1942 года да ліпеня 1944 года быў начальнікам Вілейскай турмы СД. На яго сумленні сотні самаручна расстраляных жыхароў і савецкіх ваеннапалонных. 10 красавіка 1945 года выязная сесія Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла яго да найвышэйшай меры пакарання – праз павешанне. І гэта неўзабаве было прылюдна выканана ў Вілейцы.

### Пасля вайны

Пасля вызвалення старая турма зноў стала дзейнічаць па сваім прамым назначэнні і хутка напоўнілася здраднікамі, былымі паліцэйскімі, крымінальнымі элементамі і простымі людзьмі, якія за хаценне есці і жыць вымушаны былі працаваць у розных акупацыйных установах, за што былі аднесены да нямецкіх пасобнікаў і ворагаў Савецкай улады.

**У сярэдзіне 50-х гадоў у Вілейскай турме адбылося надзвычайнае здарэнне, калі група злачынцаў, асуджаных на працяглыя тэрміны пакарання, уцякла, пракапаўшы патаемны лаз за турэмную сцяну. Але ахова своечасова схапянулася, і ўсе збеглыя зноў апынуліся за кратамі.**

У 1964 годзе турма спыніла сваю дзейнасць і неўзабаве была перароблена ў анкалагічны дыспансер. Яшчэ ў 1966 годзе пры правядзенні тут земляных работ адкопвалі чалавечыя косці. Аднак у той час вялікага шуму з гэтага не падымалі, спісвалі на астанкі ахвяр масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян нямецкафашысцкімі захопнікамі.

Восенню 1994 года пачалося будаўніцтва новага корпуса медыцынскай установы, і пры рыцці катлавана зноў былі выяўлены невядомыя пахаванні.

Для многіх вязняў, ні ў чым не вінаватых людзей, турэмны двор з'явіўся апошнім жыццёвым прытулкам. Сёння цяжка канстатаваць, ахвярамі чыіх рук яны сталі, - органаў НКУС ці нямецка-фашысцкага рэжыму, але ўсе яны людзі і заслужылі таго, каб былі ўстаноўлены іх імёны, а астанкі пахаваны.

Што і зроблена на новых Вілейскіх могілках, дзе непадалёку ад уваходу высіцца вялікі драўляны крыж, а побач – камень-валун, на якім высечаны такія словы: "Ратуй нас, Хрысце, лёсу пакутнікаў, змучаных і расстраляных у турме Вілейскай за часы існавання яе. Дабраслаў, Божа, душы палеглых айцоў, братоў і сясцёр нашых, імён якіх не ведалі і ведалі...".

**Анатоль РОГАЧ, Вілейка.**

# Маладзечна – калыска Юрыя Антонава

**У 14 гадоў Юрый Антонаў ужо кіраваў хорам на чыгуначным вузле станцыі Маладзечна. Падчас вучобы ў музычным вучылішчы здолеў стварыць дыксіленд з рускіх народных інструментаў, а ў пачатку 60-х гадоў працаваў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ён паспяхова, крок за крокам, ішоў уверх па шчаслівай лесвіцы.**




**Юрый Антонаў – выпускнік Маладзечанскага музвучылішча. 1963 год.**




Фота з альбома Станіслава РЫМКЕВІЧА, аднакурсніка Юрыя Антонава.

## Ацэнка Пола Макартні

**Юрый Антонаў – адзіны з савецкіх і расійскіх эстрадных дзеячаў удастоіўся пахвалы легендарнага Пола Макартні, які высока ацаніў творчасць Юрыя Антонава ў сваім інтэрв'ю газеце "Комсомольская правда" ў 1991 годзе. У музычных калектывах, якімі кіраваў Антонаў, прайшлі добрую школу многія вядомыя цяпер музыканты і выканаўцы: А.Укупнік, В.Мацецкі, Е.Маргуліс, В.Зінчук, В.Галутвін, М.Файнзільберг, К.Нікольскі і іншыя.**

## Музыка для кіно

**Юрый Антонаў – не толькі кампазітар-песеннік, але і аўтар музыкі да многіх кінафільмаў. Сярод іх – "Беражыце жанчын", "Перш, чым расстацца", "Салон прыгажосці", "Загад", "Незнаёмая песня", "Дурні паміраюць па пятніцах" і інш. Сумесна з паэтам Міхаілам Пляцкоўскім ім напісаны дзіцячы мюзікл "Прыгоды коніка Кузі". Фірма "Мелодыя" выпусціла 4 пласцінкі гэтай цудоўнай музычнай казкі: "Прыгоды коніка Кузі" (1983), "Новыя прыгоды коніка Кузі" (1983), "Адшукваецца конік Кузя" (1989), "Конік Кузя на планеце Туамі" (1989).**

## Зорка яго імені

**Юрый Антонаў – народны артыст Расіі, заслужаны артыст Чэчэна-Інгушскай АССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі, лаўрэат нацыянальнай прэміі "Авацыя" ў намінацыі "Лепшы канцэрт года". У 1997 годзе на алеі зорак у канцэртнай зале "Расія" закладзена "Зорка Юрыя Антонава". У дні святкавання 850-годдзя заснавання Масквы Юрый Антонаў прымаў актыўны ўдзел у юбілейных канцэртах, за што быў узнагароджаны Ганаровай граматай урада Масквы. У 1998 годзе адной з зорак у сузор'і Рыб прысвоена імя "Юрый Антонаў". Артыст узнагароджаны медалямі "20 год перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг." (1965) і "У памяць 850-годдзя Масквы". У 1999 годзе Юрыю Антонаву прысуджана нацыянальная музычная прэмія "Авацыя" ў намінацыі "Жывая легенда".**

## Любіць сабак і кошак

**Юрый Антонаў вельмі любіць жывёл. У яго 5 сабак і 12 кошак. А яшчэ ён любіць футбол, тэніс, більярд. Любімы напітак – чырвонае віно.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**На 2-м паверсе гэтага дома па маладзечанскай вуліцы імя Жданава, 15 (цяпер імя Машэрава) да 1961 года жыў са сваімі бацькамі і сястрой будучы кампазітар і зорка савецкай эстрады Юрый Антонаў. Ад старой вярбы, пад якой іграў на гітары Юрый, застаўся толькі пень. Кватэра нумар 10 пустуе.**

# Здаралася, што яго замыкалі ў класе...

Шмат дзе ведаюць і любяць папулярнага спевака Юрыя Антонава. Яго музыка і яго голас гучаць у самых прэстыжных залах шматлікіх краін, прыгожы голас і мелодыі, што глыбока кранаюць сэрца, пяшчотна плывуць над марской гладдзю курортных мясцін. Яго ведаюць і любяць у Маладзечне, бо тут ён рос, сталеў і фарміраваўся як музыкант.

Біяграфія Юрыя Антонава багатая падзеямі і нечаканасцямі.

Нарадзіўся спявак 19 лютага 1945 года ў Ташкенце ў сям'і ваеннаслужачага. Яго бацька – афіцэр Савецкай Арміі – пасля заканчэння вайны застаўся служыць у ваеннай адміністрацыі Берліна, дзе і нарадзілася ў 1948 годзе яго сястра Жанна. Маці Юрыя і Жанны – гаспадыня. Пасля заканчэння службы ў Германіі бацьку пераводзяць у Беларусь, і ў хуткім часе сям'я трапляе ў Маладзечна, тады абласны горад, дзе бацька Юры працуе ў ваенным камісарыяце. Маці ў той час працавала бухгалтарам у абласным упраўленні прамысловасці.

А ў сярэдняй школе №2 з'явіўся худзенькі і маленькі светлагаловы хлапчук Юра. Адначасова вучыўся ён і ў музычнай школе.

**Дзіна Гурчанка**, дырэктар СШ №2, успамінае: "Вучыўся Юра добра, ні ў чым асабліва не выдзяляўся, хіба што маленькім ростам і рыжавата-светлай галавой. Але мне добра запомнілася карціна, якую я неаднойчы назірала. Уявіце сабе, па тратуары ідзе жанчына з вялікім акардэонам у футляры, а за ёй – хлопчык. Гэта Юра ідзе вучыцца ў музычную школу, а яго мама нясе музычны інструмент, бо Юра быў ненамнога вышэй акардэона".

Пасля заканчэння музычнай школы Юра паступае ў музычнае вучылішча па класу акардэона, час вучобы ў якім прыпадае на 1959-1963 гады. У той час гарадскі Дом культуры быў, бадай, адзіным месцам у Маладзечне, дзе кіпелі культурныя, музычныя страсці. Тут Юрый ухітрыўся стварыць свой эстрадны аркестр, хаця ў сённяшнім разуменні аркестрам назваць той калектыў было цяжка. Не хапала інструментаў, нават нот... Але было вялікае жаданне нешта стварыць, даць інструментам гучанне. А па ноты часта ездзілі ў Вільню.



**И если вдруг тебе взгруснется,**
**То грусть не значит ничего,**
**Когда ты знаешь,что под солнцем**
**Есть крыша дома твоего...**

Памятаюць Юрыя Антонава і яго "аднакашнікі" па музычным вучылішчы.

**Бэці Аўдзеенка**, дырэктар музычнай школы: "Юру памятаю добра. Надзвычай рухавы, вясёлы і, канешне, з вялікімі музычнымі здольнасцямі. Ён нарадзіўся музыкантам, і тое, што столькі дзесяцігоддзяў любяць яго песні, гаворыць само за сябе. Яго творы – гэта ўжо, можна сказаць, класіка".

**Станіслаў Рымкевіч**, аднакурснік: "У вучылішчы я займаўся разам з Юрыем Антонавым. Мы вучыліся ў адной групе (клас педагога К.К.Пагоцкага). Памятаю і па музычнай школе. Ён паступіў у школу спачатку па класе акардэона, а потым перайшоў у клас баяна. Відаць, ні тое, ні другое яго не вабіла, бо часта ўцякаў з заняткаў. А каб займаўся, яго часам замыкалі ў класе".

**Лідзія Янушкевіч**: "Вельмі захапляўся джазавай музыкай. Пачуццё рытму меў незвычайнае. Бывала, сядзіць на ўроку гісторыі ці мовы, а сам палачкамі ці пальцамі на стале выстуквае нейкія рытмы".

У гэты час Антонаў знаёміцца з джазавай музыкай. Упершыню ў 1964 годзе скрозь шум невялікага радыёпрыёмніка «Спідола" пачуў ён ансамбль "Бітлз". Гэта перавярнула ў душы будучага музыканта ўсё! Гэта быў цуд!..

Пасля заканчэння Маладзечанскага музычнага вучылішча Юрый Антонаў накіроўваецца працаваць у адну музычную школу г.Мінска, дзе ў той час жылі бацькі. Хутка яго запрашаюць у Беларускую дзяржаўную філармонію ў якасці саліста-інструменталіста.

З 1964 года ён служыць у радах Савецкай Арміі, а па заканчэнні службы працуе ў той жа філармоніі. У 1967 годзе ён становіцца музычным кіраўніком калектыву спевака Віктара Вуячыча.

Жыццё дорыць Антонаву новыя сюрпрызы – у 1969 годзе яго запрашаюць у легендарны Ленінградскі ансамбль "Поющие гитары". У гэтым калектыве Юрый Антонаў упершыню пачаў спяваць, і да таго ж вельмі ўдала. Ён піша музыку, сам выконвае свае песні. Але ўсесаюзную папулярнасць прыносіць яму песня "Для меня нет тебя прекрасней". Гэта быў шлягер таго часу. Гэтую песню палюбілі і спявалі ўсюды. І, што важна, яна была папулярнай сярод музыкантаў.

1971 год стаў пачаткам новага перыяду ў творчым жыцці цяпер ужо ўсім вядомага спевака, музыканта і кампазітара. Ён пераязджае ў Маскву. Тут ён працуе ў ансамблі "Добры молодцы". У гэты час ён напісаў песні "Кончается лето", "Еще вчера", "Отчего" і іншыя. Яго запрашаюць у аркестр Анатолія Крола ў якасці саліста-вакаліста. Пачынаюцца выступленні ў Маскве. Гэтым часам у Маскве ствараецца мюзікхол, і адміністрацыя раканцэрта запрашае Антонава стварыць уласную групу, на што і была дадзена згода.

Гэта была першая група Юрыя Антонава ў Маскве, якая ў далейшым атрымала назву "Магістраль". З гэтам ансамблем спявак гастралюе па ўсёй краіне і набывае яшчэ большую папулярнасць. На фірме "Мелодыя" выходзяць яго першыя пласцінкі, якія імгненна раскупляюцца, яго песні спявае ўся краіна: "На улице Каштановой", "Я иду тебе навстречу", "Белый теплоход" і многія іншыя. Мільёны прададзеных пласцінак. Гэта поспех!

Але сапраўдны ўзлёт адбыўся тады, калі пачалася вялікая работа на фірме "Мелодыя" з групай "Аракс". Прададзена 20 мільёнаў копій! Уся краіна зноў спявае новыя песні Юрыя Антонава "Море", "Не забывай", "Анастасия", "Я вспоминаю", "Мое богатство", "Двадцать лет спустя" і іншыя. Поспех нарастае, як снежны камяк. Адэская кінастудыя запрашае напісаць музыку да кінафільма "Беражыце жанчын".

Так пачалася работа ў кіно. Юрый Антонаў напісаў музыку да многіх кінафільмаў.

Сумесна з вядомым паэтам М.Пляцкоўскім Юрый Антонаў напісаў дзіцячую музычную казку-мюзікл «Прыгоды коніка Кузі", у якой упершыню прагучала адна з самых папулярных песень "Крыша дома твоего".

Юрый Антонаў выступае на музычных пляцоўках Кіева, Растова-на-Доне, Масквы і многіх іншых гарадоў былога Саюза, дзе дадзены дзесяткі канцэртаў. Толькі ў Ленінградзе за 15 дзён Юрый Антонаў даў 28 канцэртаў, на кожным канцэрце прысутнічала 14 тысяч слухачоў. Агульны тыраж прададзеных музычных носьбітаў – 47 мільёнаў экземпляраў.

З 1985 года Юрый Антонаў запрошаны фірмай "Поларвокс Мюзик" у Фінляндыю для запісу альбома на рускай і англійскай мовах. З гэтага і да апошняга часу Юрый Антонаў працуе ў сваёй студыі над новымі кампакт-дыскамі, працуе з маладымі выканаўцамі, выступае з канцэртамі і адчувае сябе шчаслівым чалавекам.

У 1997 годзе на алеі зорак у Маскве адбылася ўрачыстая закладка пліты з яго імем.

**Падрыхтавала**
**Любоў КАРПОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ

## Перамога смаргонскіх дзяўчат

**СМАРГОНЬ. На рэспубліканскіх спаборніцтвах сярод дзяўчат 1986 г.н. бліскуча выступілі выхаванкі смаргонскай СДЮШАР-1 (трэнеры Жанна Грэхава і Валерый Юрчанка).**

Яны паслядоўна перамаглі ўсіх сваіх шэсць камандсапернiц і занялі першае месца. Добра згуляла ўся каманда, але вылучаліся ў яе складзе, безумоўна, **Юлія Дурэйка, Алена Рынкевіч** і **Аляксандра Тарасава**. Гэтыя дзяўчаты год таму перайшлі вучыцца ў сталічны РВАР. Гэтым летам у складзе зборнай краіны выступалі на міжнародных спаборніцтвах у Маскве і на кваліфікацыйным турніры да чэмпіянату Еўропы ва ўкраінскім Нікалаеве. Дарэчы, у Нікалаеве беларускі перамаглі і цяпер рыхтуюцца да ўдзелу у еўрапейскім паўфінальным турніры ў красавіку будучага года.

Смаргонскія хлопцы 1986 г.н. пад кіраўніцтвам **Сяргея Дурэйкі** занялі сёмае месца ў рэспубліцы.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ БАСКЕТБОЛ

## Дзіцячая баскетбольная ліга

**Сёлета зноў прымае старт чэмпіянат дзіцячай баскетбольнай лігі.**

Будзе праведзена пяць турніраў (сярод хлопцаў 1989, 1988 і 1987 г.н., сярод дзяўчат 1989 і 1987-88 г.н.), у трох з якіх прымуць удзел шэсць калектываў з нашага рэгіёна: па два са Смаргоні, Маладзечна і Валожына.

У дзяўчат 1989 г.н. сабралася толькі 4 каманды. Кожная з іх па аднаму разу прыме дома сапернiц на аднакругавы тур. 21-23 кастрычніка ў Мінску (СДЮШАР-10), 2-4 снежня ў Гомелі (АДЮСШ), 11-13 лютага ў Мінску ("Гарызонт"), 18-20 сакавіка ў Смаргоні (СДЮШАР-1, трэнер Жанна Грэхава). Потым будзе плэйоф.

У хлопцаў 1989 і 1988 г.н. формулы аднолькавыя. Дзесяць каманд разбіты на дзве пяцёркі. Пасля аднакругавога турніру па тры лепшыя калектывы працягнуць барацьбу за 1-6-е месцы, астатнія – за 7-10-е.

Сярод малодшых тры нашыя прадстаўнікі: СДЮШАР-1 (Смаргонь, трэнер **Вольга Савоська**), СДЮШАР-1 (Маладзечна, трэнеры **Уладзімір Кляміяціч** і **Анатоль Яфімаў**), "Пяршаі" (Валожын, трэнер **Леанід Хвядчэня**). Яны трапілі ў адну падгрупу разам з СДЮШАР-10 (Мінск) і СДЮШАР-4 (Віцебск).

Сярод старэйшых СДЮШАР-1 (Маладзечна, трэнеры Любоў Філіповіч і Анатоль Яфімаў) таксама прыме падгрупу дома. 4-6 лістапада прыедуць СДЮШАР-10 (Мінск), СДЮШАР-4 (Віцебск), БМЗ (Жлобін) і СДЮШАР (Магілёў). Гімназія (Валожын, трэнер Леанід Хвядчэня) паедзе ў гэты час у Мінск, дзе сустрэнецца з АДЮСШ (Гомель), ДЮСШ (Светлагорск), ДЮСШ (Асіповічы), СДЮШАР-10-ІІ (Мінск).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПАРТРЭТ

# Наташыны перамогі

**СМАРГОНЬ. Любімая казка Наталлі Грыневіч – "Папялушка". Мабыць, жыццё Наташы нечым нагадвае казку. А як прыбірала Папялушка?! Ці не нагадвае гэта справа лёгкую атлетыку?**

...У школе ішоў звычайны ўрок фізкультуры. Настаўнік вёў занятк і – усё як мае быць. Час ад часу размаўляў з мужчынам, які прысутнічаў на ўроку. Гэта быў трэнер па лёгкай атлетыцы. Ён і прапанаваў Наталлі прыйсці ў спарткомплекс "Юнацтва". "Вельмі нечакана і радасна для мяне", – успамінае Наташа.

Так у 13 гадоў яна пачала займацца лёгкай атлетыкай. Праз год перамагла на рэспубліканскіх спаборніцтвах. Трэніруецца Наталля ўжо 4-ы год. Заняткі доўжацца па 2 гадзіны штодзень, акрамя нядзелі. У перапынку паміж справамі ходзіць на дыскатэку ці глядзіць музычны канал. Гаворыць, што часу ні на што не хапае.

Акрамя, канешне, колькіх хвілін на яду. Нашая Папялушка есць усё падрад. Нягледзячы на тое, што трэнер кажа не есці шмат булачак.

Цяпер Наташа з трывогай чакае зіму. Частка заняткаў павінная праходзіць у спецыяльным манежы, другая – у спартзале. Замест манежа – вуліца. Пасля такой трэніроўкі і сон не возьме. Наталля расказвае, што дрэнна спіць перад спаборніцтвамі. "Здаецца, бягу, а ўцячы не магу. Ці сню, што прайграла".

Але ж сон – гэта казка, дзе канец заўсёды шчаслівы.

**Ірына РАБУШКА.**



Лёгкаатлетка Наталля Грыневіч баіцца зімой замерзнуць на трэніроўцы. Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# «Маладзечна-2000» замыкае турнірную табліцу

**20 кастрычніка. "БАТЭ" (Барысаў) – ФК "Маладзечна-2000" 4:0**

Суддзя А. Чыкун (Стоўбцы), 1500 гледачоў.

**Галы:** Чумачэнка (8, 23, з пен.), Ганчарык (44, 68).

**Склад:** Сцепановіч (кап.), Пятроўскі, Дрозд, Азява (Альховік, 63), Азаронак, Лявончык (Смірноў, 87), Карпіленка, Сысой, Дараховіч, Сідарэнка, Макрыцкі.

**Запасныя:** Рубацкі, Грыхуцік.

**Папярэджанні:** Кобец; Макрыцкі, Азява.

**Лепшыя** – Сцепановіч, Карпіленка.

Барысаўскі клуб яшчэ тэарэтычна можа стаць чэмпіёнам. Дома падараваць ачкі маладзечанцам падначаленыя Юрыя Пунтуса не мелі права. І перамаглі гасцей з буйным лікам.

**Аляксандр Кісцень** перавёў **Руслана Азаронка** з абароны ў цэнтр паўабароны, што прынесла вынік. Пасля Віталя Міхалёва клубу не хапала таго футбаліста, які б у поўнай меры валодаў культурай паса. Сысой застаўся пасля добрага матча з мінскім "Дынама" на пазіцыі апошняга абаронцы.

БАТЭ перайграў "Маладзечна" за кошт хуткасці. Трэба памятаць пра рознасць трэніровак самага стабільнага клуба краіны і аўтсайдэра, які трэніруецца на полі за дзень да гульні.

### Галы

Яўген Лашанкоў, як хуткі цягнік, прашмыгнуў ля трох маладзечанскіх абаронцаў і прабіў нізам па варотах. Віталь Сцепановіч мяч адбіў, але паўабаронца гаспадароў Ігар Чумачэнка свой шанс забіць 50-ы юбілейны гол у чэмпіянатах не ўпусціў.

**Андрэй Лявончык** у штрафной задзеў нагу вартанца з Італі Віталя Рагожкіна. Алег Чыкун указаў на кропку. Чумачэнка з адзінаццаціметровай адзнакі прабіў дакладна у левы вугал варот.

Арцём Ганчарык выйграў барацьбу ў **Аляксандра Сысоя** і, абыграўшы варатара, забіў трэці мяч у гульні. Пасля перапынку Ганчарык зрабіў дубль пасля перадачы з фланга Кобеца.

### Гульня

"Маладзечна-2000" мела шмат момантаў, каб зрабіць лік больш прыстойным. **Сідарэнка** на першых хвілінах заблытаўся, напэўна, у сваіх нагах і не рэалізаваў выдатны выхад тэт-а-тэт з Федаровічам. Увогуле, нападаючы быў мацней у адзінаборствах, але ў гэты дзень не здолеў выкарыстаць свае моманты. Другі тайм насіў сімвалічны характар. Барысаў сачыў за выступленнем канкурэнтаў, а маладзечанцы трэніраваліся на добрым полі перад, магчыма, галоўнымі і вырашаючымі паядынкамі чэмпіянату.

У другой палове сустрэчы Чумачэнка двойчы забіваў са становішча па-за гульнёй і трапіў у штангу і перакладзіну.

### Каментарый

Галоўны трэнер ФК "БАТЭ" Юрый Пунтус:

– Незадаволены дзеяннямі абаронцаў. Дрэннае выканаўчае майстэрства маладзечанцаў нас выратавала. Гэта не Стрыпейкіс з Каролікам з "Белшыны", якія з двух момантаў забіваюць паўтара гола. Мы таксама шмат не рэалізавалі. Будзем змагацца да канца.

Трэнер "Маладзечна-2000" **Андрэй Найдзіч**:

– Барысаўскі клуб – сапернік не нашага ўзроўню. Прэтэнзій да футбалістаў няма Будзем рабіць усё магчымае, каб застацца ў вышэйшай лізе.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

### Бабруйскія парадоксы

Задоўга да матча "Белшына" (Бабруйск) – "Лакаматыў-96" (Віцебск) хадзілі чуткі пра тое, што гаспадары спецыяльна прайграюць у гэтай сустрэчы. Бабруйчане на чале са сваім прэзідэнтам клуба Алегам Гушчай ужо даўно сталі героямі падобных скандальных сітуацый.

Нядаўна ў прэсе прэзідэнт барысаўскага БАТЭ Анатоль Капскі заявіў, што атрымаў ад Гушчы па тэлефоне прапанову "заплаціць" за будучую перамогу БАТЭ над "Белшынай". Капскі, па яго словах, тэлефонную трубку кінуў, а ў матчы бабруйчане перамаглі і тым самым паказалі, што папярэднейшым могуць добра гуляць у футбол.

У нядзелю ў Бабруйску гаспадары прымалі нашых канкурэнтаў за "месца пад сонцам" віцеблян. Лік адкрыў нападаючы "Белшыны" Валерый Стрыпейкіс. Напрыканцы першага тайма госці лік аднавілі, а напачатку другога выйшлі наперад 2:1. Прысутныя сведчаць, што абодва галы забіваліся без перашкод з боку абаронцаў. Гульцы пакінулі поле, амаль не вымазаўшы майкі.

Нягледзячы на тое, што перадматчавая сітуацыя была вядома многім у футбольных колах, на гульні не прысутнічалі прадстаўнікі федэрацыі футбола. Дарэчы, у іншых краінах ёсць прэтэндэнты, калі нават на падставе відэазапісу анулюецца лік сустрэчы і залічваецца паражэнне абодвум удзельнікам.

Дынама (Бр) – Дынама (Мн) 0:0, Нёман – Тарпеда 1:1, Славія – Днепр-Трансмаш 3:2, Тарпеда-МАЗ – Шахцёр 1:2, Гомель – Зорка-ВА-БДУ 2:2, Белшына – Лакаматыў-96 1:2.

| | |
|---|---|
| 1.Нёман | 52 |
| 2.Тарпеда-МАЗ | 47 |
| 3.БАТЭ | 47 |
| 4.Шахцёр | 45 |
| 5.Гомель | 40 |
| 6.Дынама (Мн) | 39 |
| 7.Тарпеда | 37 |
| 8.Днепр-Трансмаш | 36 |
| 9.Белшына | 31 |
| 10.Дынама (Бр) | 25 |
| 11.Славія | 18 |
| 12.Зорка-ВА-БДУ | 15 |
| 13.Лакаматыў-96 | 9 |
| **14.Маладзечна-2000** | **8** |

**Бамбардзіры:** Стрыпейкіс (Белшына) – 16, Мархель (Тарпеда) – 14, Чумачэнка (БАТЭ) – 11 галоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Пашанцавала

**19 кастрычніка. Смаргонь – Камунальнік (Слонім) 1:0 (1:0)**

Суддзя Юрый Кунцэвіч (Гродна), 1500 гледачоў.

Галы: Дзігілевіч (20).

Склад: Шэлест, Давідовіч, Чарнуха, Курак, Жачко, Налівайка, Дукса, Мяць, Дзігілевіч (Кошаль, 46), Кода, Жаркоў (Шаблінскі, 75).

На 90-й хвіліне выдалены Жачко.

Ішла роўная гульня амаль без галявых момантаў. Госці двойчы наносілі небяспечныя ўдары па варотах "Смаргоні", а незадоўга да перапынку нават забілі гол, але суддзя зафіксаваў афсайд. Гаспадары свой момант выкарысталі: Налівайка прастрэліў с правага флангу ўздоўж варотаў, і на далёкай штанзе нагу падставіў Дзігілевіч.

| | |
|---|---|
| 1.Дарыда | 71 |
| 2.Нафтан | 65 |
| 3.Лакаматыў | 63 |
| 4.Ведрыч-97 | 58 |
| 5.Граніт | 56 |
| 6.Ліда | 46 |
| 7.ЗЛіН | 43 |
| 8.Камунальнік | 35 |
| 9.Днепр-ДЮСШ-1 (-1) | 31 |
| 10.Дынама-Юні (-1) | 31 |
| 11.Тарпеда-Кадзіна | 31 |
| 12.Нёман | 31 |
| 13.Хімік | 30 |
| **14.Смаргонь** | **29** |
| 15.Бяроза | 22 |
| 16.Асіповічы | 9 |

**Бамбардзіры:** Кузьмянок (Дарыда) – 39; Юсіпец (Ведрыч-97) – 19...Налівайка – 6.

Склад у пазамінулым туры ў Лідзе: Шэлест, Іваноў (к), Давідовіч, Чарнуха, Мяць, Налівайка, Дукса, Жаркоў, Дзігілевіч, Шамшорык, Казлоў (Жачко, 66)

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

На традыцыйны марафонскі прабег у Малырыту ездзілі прадстаўнікі Маладзечаншчыны. **Галіна Кавалёва** заняла другое месца ў абсалютным заліку, **Аляксандр Кавалёў** быў трэцім ва ўзросце 50-59 гадоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ВАЛЕЙБОЛ

МЯДЗЕЛ. Каманда юнакоў 1985-1986 гадоў нараджэння з райцэнтра заняла трэцяе месца на фінальных абласных спаборніцтвах сярод каманд, створаных па месцы жыхарства.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ФУТБОЛ, ДУБЛЬ

19 кастрычніка. БАТЭ (Барысаў, дубль) – Маладзечна-2000 (дубль) 5:0 (2:0)

Галы: (2), (22), (69), (80), (85)

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НА ГЭТЫМ ТЫДНІ ГУЛЯЮЦЬ

**14-00 (дублі) Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст)**
+1=0-2 5-3. У першым крузе 0:1 на выездзе

**26.10 14-00 Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст)**
+3=6-10 16-36. У першым крузе 1:2 (Сарасек) на выездзе

**27.10 Нафтан (Наваполацк) – Смаргонь**
У першым крузе 0:2 дома

**30.10 Лакаматыў-96 (Віцебск) – Маладзечна-2000**
+5=3-11 18-30. У першым крузе 3:1 (Сарасек, Сысой, Міхалёў) дома

# ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Ірыну Рыгораўну Гулак** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, удачы, цяпла, каб беды-нягоды згарэлі датла, каб жыць — не тужыць да ста год давялося, хай збудзецца ўсё, што яшчэ не збылося. *Вучні 6"А" класа СШ №4 і іх бацькі, г. Маладзечна.*

Віншуем **Таццяну Вацлаваўну Глушко** з днём нараджэння! Няхай цябе заўсёды Бог аберагае і ласку шчодра пасылае. *Дочкі і матуля.*

Віншуем з 50-годдзем **Евяліну Васільеўну Мазуру**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў і доўгіх год жыцця. *Сям'я Сняжко.*

Віншуем самую прыгожую дзяўчынку **Ірыну Тамковіч** з 18-годдзем! Жадаем моцнага кахання, здароўя, шчасця, усмешак. *Родныя.*

Віншуем з днём нараджэння **Таццяну Аляксандраўну Імашаву**! Жадаем даўгалецця, здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Калектыў.*

Дарагую **Лену Філістовіч** віншуем з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у справах. *Муж, дочкі.*

**Яўгену Мікалаевічу Селюну** з в. Кураниец. Жэня, з юбілеем! Здароўя, шчасця, кахання, усяго табе найлепшага. *Пётр, Людміла, Юлія.*

Віншуем **Алену Уласаву** з днём нараджэння! Жадаем сямейнага дабрабыту, шчасця, здароўя. *Сын Дзяніс, муж Іван.*

Дырэктару СШ №4
з Маладзечна
**Віктару Фамічу Куханчыку**
з 50-годдзем!

Гады пражыты недарэмна —
Іх плён адметны для людзей.
Вітаць Вас шчыра нам прыемна
У гэты знамянальны дзень.
Часцей жадаем усміхацца,
Па дробязях не засмучацца,
Не нервавацца, не хварэць,
Шчасліва жыць і не старэць.
*Вучні 6 «А» класа, іх бацькі, класны кіраўнік.*

Віншуем
**Сяргея Гайковіча**
з 25-годдзем!
Дарагі калега! Жадаем табе поспехаў, усмешак і здзяйснення мар.



Няхай спартыўны сектар нашае газеты
Заўсёды будзе любы чытачу.
Мы ж чуем ад зімы да лета –
Гайковіча чытаць хачу!
Няхай твая старонка спорту
Ніколі не саб'ецца драбязой.
Да д'ябла ўсё, Сярожа, к чорту! –
Калі няўтульна, неба капае слязой.
Няхай заўсёды свеціць сонца.
*Сябры, калегі і таварышы твае бясконца.*

■ ЭКСКУРСІІ

# Люстра на 170 лямпачак

**МАЛАДЗЕЧНА. У гэтыя дні ў гарадскім Палацы культуры праходзіць тыдзень адчыненых дзвярэй.**

Нямногія маладзечанцы ведаюць, што змяшчае новы Палац, які адкрыўся 17 кастрычніка. Таму цікавасць да яго ёсць. За дзень ў Палацы праходзіць па 20-30 экскурсій.

Іх праводзяць для арганізацый, устаноў, а таксама для ўсіх гараджан, што жадаюць прайсціся па доўгіх калідорах Палаца. Экскурсію прапаноўваюць прама на месцы.

Цяпер у Палацы працуе народны ансамбль песні і танца "Спадчына", узорная эстрадная студыя "Жывы гук", клуб ветэранаў вайны і працы "Адпачынак", студыя бальнага танца "Каскад"... Усяго тут будзе звыш 30 студый, гурткоў і клубаў.

Падчас экскурсій людзі актыўна задаюць пытанні. Прыкладам, ці можна тут будзе зарэгістраваць шлюб. Калі хто пажадае, калі ласка. Уражваюць наведвальнікаў вялікія свяцільні. Часта пытаюцца, колькі лямпачак у самай вялікай. Аказваецца, 170.

**Ірына РАБУШКА.**



**Мастак Мікола Аўчыннікаў за дзень да адкрыцця маладзечанскага Палаца культуры наладжвае выставу, якую можна паглядзець і зараз.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Ананасы з кабачкоў

Кабачок ачысціць ад скуркі і выдаліць насенне, нарэзаць маленькімі кубікамі, пасыпаць цукрам і даць пастаяць, каб з'явіўся сок. Нагрэць, не даводзячы да кіпення, астудзіць. Дадаць цэдру лімона, сок лімона і абляпіхі, карыцу.

## Капуста на скорую руку

**3 кг капусты, 3-4 морквіны, 2 галоўкі часнаку.** Капусту разам з храпкай разрэзаць на 6-8 частак. Скласці ў глыбокі посуд слаямі з морквай і часнаком. Уліць ? шклянкі алею. Прыгатаваць марынад: 1,5 л вады, 1 шклянка цукру, 4 ст. лыжкі солі з верхам, 250 г воцату. Усё закіпяціць. Заліць марынадам капусту і зверху пакласці цяжар. Праз некалькі дзён капусту можна есці.

## Чарнасліў, фаршыраваны тварагом

**300 г чарнасліву, 100 г тварагу, 1 яйка, 2 ст. лыжкі цукру, 100 г смятаны, 2 ч. лыжкі сметанковага масла.** Чарнасліў прамыць, заліць невялікай колькасцю гарачай вады і пакінуць пад накрыўкай для набухання. Затым выняць з чарнасліву костачкі. Працёрты тварог змяшаць з яйкам і цукрам. Чарнасліў напоўніць тварожнай начынкай, выкласці на скавараду, заліць смятанай і запячы ў духоўцы. Пры падачы на стол паліць распушчаным маслам.

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон 43** Рэгіянальная газета

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».**
**Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.**
**Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

# Кінатэатр «Радзіма»



**25-27 кастрычніка**

"**Алі**", ЗША, 2 серыі – у 18.00 і 20.40. У аснову фільма ляглі падзеі з жыцця баксёра Махамеда Алі.

Прыгодніцкі фільм для ўсёй сям'і "**Джой**", ЗША – у 15.00. Білі ведае, што кенгуру ў небяспецы, і адпраўляецца на дапамогу, каб выратаваць жывёлу.

Хочаце ведаць, як жыве руская мафія ў Галівудзе, глядзіце фільм Сяргея Бадрова "**Давай зробім гэта хутка**" – у 21.00.

**25-31 кастрычніка**

"**Чалавек-павук**", ЗША – 15.00, 17.00, 19.00 і 21.00.

**Для дзяцей**

27 кастрычніка – "**Касмічны Джым**" – у 13.00.

2-і паверх, БАР. У 21.00 у пятніцу, суботу і нядзелю – дыскатэка. Для падлеткаў – у суботу і нядзелю ў 17.00. У сераду і чацвер уваход у бар – бясплатны.



# ЗНАЁМСТВЫ

Рамза шукае сваю Джульету (да 40 год). Маладзечна-3, п/д ВУ №014618.

Мужчына, 50/170/70. без шк/зв., пазнаёміцца з жанчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0367626.

Малады чалавек 27/178/70 пазнаёміцца з дзяўчынай ад 25 год для стварэння сям'і. Маладзечанскі р-н, п/а Маркава, п/п МС 0534704.

Пазнаёмлюся з адзінокай жанчынай, прыемнай, без шк/зв., да 48 год, з жыллём. Пра сябе: 48/170/72. Тэлефон паскорыць знаёмства. Маладзечна-6, п/п КН 0476572.

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя! Узнаўляем конкурс для аматараў паварушыць мазгамі.

Чарговае заданне. Брытанскія акулісты звярнулі ўвагу, што ў апошні час вырасла колькасць дзяцей, якія жадаюць праверыць зрок. 40% юных пацыентаў прыходзяць да дактароў у спадзяванні, што бацькі закажуць акуляры ў круглай цёмнай аправе.

Назавіце імя таго, хто заставіў юных брытанцаў так хваляваца аб уласным здароўі.

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін 28 кастрычніка, 15-00) і прыходзьце па запрашальны білет на дваіх на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ІМЯНІНЫ

**25 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Івана, Кузьмы, Марціна.
**Каталіцкія**: Дар'і, Пятра.

**26 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Карпа, Мікіты.
**Каталіцкія**: Дзімітра.

**27 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Праскоўі, Мікалая, Назара.
**Каталіцкія**: Сабіны, Пятра.

**28 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Івана, Лук'яна, Яфіма.
**Каталіцкія**: Антона.

**29 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Лонгіна.
**Каталіцкія**: Міхала, Нарцыза, Тодара, Яцка.

**30 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Андрэя, Антона, Анфіма, Дзям'яна, Кузьмы, Лазара, Лявона.
**Каталіцкія**: Альфонса, Пшыбыслава, Пшэмыслава, Эдмунда.

**31 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Іосіфа, Лукі, Юльяна.
**Каталіцкія**: Вольфганга, Сатурніна, Урбана.

■ ТВАЁ ІМЯ

**Паважаны чытач! У гэтай рубрыцы ты даведаешся, якое значэнне маюць нашыя імёны. Імяніны ёсць ва ўсіх. Кожны нумар мы будзем пісаць пра аднаго з імяніннікаў тыдня. Пачынаем з Антона.**

# Антон

Жыццё Антона складаецца з пастаянных узлётаў і падзенняў. Увесь час рвецца на волю, але забывае, што плата за яе – адзінота. Часта замыкаецца ў сабе. З сябрамі трымаецца на некаторай адлегласці, але верны сябар. У жыцці яму шанцуе, а разам з цярпеннем прыносіць поспех. Антон – гэта сама цярплівасць. Можа быць вядомым пісьменнікам, музыкантам, артыстам, спеваком. З яго можа атрымацца сучасны, смелы інжынер, электроншчык. У яго добрая інтуіцыя, і Антон часта прыслухоўваецца да ўнутранага голасу. Інтэлект высокі, склад розуму – сінтэтычны. Мае добрую памяць. Строга прытрымліваецца маральных правілаў. Вынослівы, не стамляецца.

■ ПАПРАЎКА

# Жанна Ангерчык гаворыць толькі за сябе

У мінулым нумары ў матэрыяле "Ці здолее БРСМ аб'яднаць моладзь?" дапушчаныя недакладнасці.

Пасля публікацыі адзін з герояў публікацыі **Жанна Ангерчык** сказала, што мае прэтэнзіі да двух фрагментаў. Першы. Школа "Лідэр" заснаваная і праходзіць на базе цэнтра пазашкольнай работы і вячэрняй школы. Другі. Выраз "Хачу запэўніць, што гарвыканкому не абыякавы іх (моладзі, якая ідзе у незарэгістраваныя арганізацыі – Ю.К.) лёс" не прагучаў падчас інтэрв'ю. Жанна Ангерчык сказала, што можа гаварыць толькі за сябе і не мае права выказваць меркаванне цэлай афіцыйнай установы.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Прыйшлося страляць

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак нарад дарожна-патрульнай службы ДАІ прымяніў табельную зброю, каб затрымаць п'янага вадзіцеля машыны.**

Здарэнне адбылося каля 17 гадзін паблізу Радашкавіч. Прыйшлося страляць 4 разы. Вадзіцеля затрымалі.

# Падлеткі б'юць дарослых

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак зарэгістраваныя два выпадкі нападзення падлеткаў на дарослых.**

Каля 21 гадзіны двое падлеткаў без ніякіх прычын збілі мужчыну ў пад'ездзе яго дома. Праз паўтары гадзіны група падлеткаў напала на іншага мужчыну. У абодвух выпадках злачынцы ўстаноўленыя.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ ВІЛЯЙЧАНАЎ

# Ці патрэбны Вілейцы венерычны дыспансер?



**Галіна Усціновіч, фельчар аддзялення "хуткай дапамогі":**

– Я катэгарычна супраць. "Хуткая дапамога" – твар нашай медыцыны. Мы, як правіла, першыя сустракаем хворых, таму пераезд і суседства не падабаюцца.



**Таццяна Несцяровіч, урач:**

– Так. Скурвендыспансер быў у Вілейцы і раней. Тут будзе больш толку ў лячэнні хворых. У Куранцы яны, здараецца, кепска сябе паводзяць. А тут міліцыю можна выклікаць.



**Мікалай Бурак, педагог:**

– Так, але тады, калі хворыя будуць у поўнай ізаляцыі ад насельніцтва. Інакш я катэгарычна супраць.



**Вольга Мышкоўская, метадыст:**

– Мне ўсё роўна. Хаця, вядома, ступень небяспекі для насельніцтва з боку хворых трэба даследаваць.

Падрыхтаваў Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

## Гараскоп 28 кастрычніка – 3 лістапада



**Авен** (21.03–20.04)

Вас чакае нялёгкі тыдзень, калі справы будуць вырашацца марудна, а ў самых элементарных сітуацыях узнікнуць затрымкі. Астролаг раіць вам накіраваць усю сваю ўпартасць, чароўнасць і красамоўства на дасягненне намечаных мэтаў. У гэтым выпадку ўсе запланаваныя мерапрыемствы, сустрэчы і перагаворы пройдуць удала.



**Цялец** (21.04–21.05)

Вы будзеце жыць у чаканні чагосьці нязведанага і новага, што можа ў корані змяніць вашае жыццё. Пад уплывам гэтага пачуцця вы, магчыма, зменіце прафесію, а можа, і закахаецеся. У любым выпадку вам удасца самарэалізавацца, і менавіта ў той сферы, якая вам будзе найбольш цікавая.



**Блізняты** (22.05–21.06)

Вы таксама можаце раскрыць глыбока да гэтага схаваныя ўсе свае ўнутраныя таленты. Гэта, як сцвярджаюць зоркі, цалкам зменіць погляды на вашае цяперашняе службовае становішча і род дзейнасці, якой вы займаецеся. Наогул, унутры вашай асобы ідзе глыбокая і сур'ёзная работа, а таму чакайце пераменаў.



**Рак** (22.06–23.07)

Вам астролаг дае параду не канфліктаваць ні з кім. Стрымлівайце сябе ў любых сітуацыях і старайцеся не растрачвацца па дробязях, памятайце, што жыццёвыя сілы лёгка губляюцца, а аднаўляюцца з вялікай цяжкасцю. У гэтым выпадку адносіны да навакольных будуць добрымі і цёплымі, а непрымнасці пакінуць вас у спакоі.



**Леў** (24.07–23.08)

Вам, верагодна, прапануюць новую пасаду ці ў вас з'явіцца магчымасць дадаткова заробку. Калі для гэтага вам прыйдзецца прымаць адказныя рашэнні, то астролаг рэкамендуе звярнуцца за парадай да старэйшых – іх жыццёвы вопыт саслужыць вам неацэнную службу. Дзякуючы гэтаму ў справах магчымы і фінансавы поспех.



**Дзева** (24.08–23.09)

Зоркі абяцаюць, што ўсё намечанае і запланаванае ў вас атрымаецца. Нішто не азмрочыць настрой і не разладзіць планы. Спрыяльныя паездкі на адпачынак, змена абстаноўкі, стасункі з сябрамі. Калі ўсё ж узнікнуць дробныя складанасці, то не забывайцеся аб тым, што менавіта сябры заўсёды прыйдуць вам на дапамогу.



**Шалі** (24.09–23.10)

Вам неабходна звярнуць увагу на свае паводзіны, трэба быць больш ветлівымі і цярплівымі да навакольных. Інакш за кароткі перыяд часу, які акрэсліваецца ўсяго толькі адным тыднем, вы можаце непрыкметна для сябе сапсаваць адносіны з усімі навакольнымі. Не забывайцеся, што аднавіць іх давер і разуменне будзе вельмі нялёгка.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

Вы павінныя сачыць за тым, каб наступны тыдзень не прайшоў марна. Менавіта цяпер, як прадказваюць зоркі, на вас звернуць увагу моцныя гэтага свету, і вы атрымаеце выгадную дзелавую прапанову, аб якой раней і не марылі. Таму ў гэты перыяд асабліва важна не заставацца пустым летуценнікам, а з толкам выкарыстаць момант.



**Стралец** (23.11–21.12)

Вам даецца спрыяльная магчымасць для рэалізацыі сваіх спраў і перагрупавання сіл. Асаблівая ўдача чакае тых Стральцоў, чыя дзейнасць звязаная з навукай. Вы будзеце проста натхнець калег сваёй энергіяй, мэтанакіраванасцю, зможаце праявіць спаўна свой навуковы талент і ствараць штосьці вельмі выдатнае.



**Казярог** (22.12–20.01)

Менш прыдзірайцеся да блізкіх людзей па дробязях. Памятайце, што вы самі далёка не ідэал, таму праявіце ў адносінах да тых, хто навокал, больш разумення. У сярэдзіне тыдня верагоднае прасоўванне па службовай лесвіцы, а вось у які бок – уверх ці ўніз, гэта будзе залежаць ад вас.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Вы, магчыма, сутыкнецеся з тым, што хтосьці паспрабуе прычыніць вам непрыемнасці. Упэўненасць у сваёй праваце, як лічыць астролаг, дапаможа вам адбіць усе непрыяцельскія нападкі. Найбольш паспяховым абяцае быць гэты тыдзень для людзей творчых прафесій – яны змогуць вельмі эфектыўна праявіць свае таленты і здольнасці.



**Рыбы** (20.02–20.03)

Вас зоркі перасцерагаюць ад двайной гульні. Магчыма, вы захочаце аказваць паслугі "і нашым, і вашым", але гэта вельмі небяспечна, паколькі вы можаце згубіць абсалютна ўсё і цалкам растраціць свой аўтарытэт у вачах навакольных людзей. Даверцеся сітуацыі, тады непрыемнасці абыдуць вас.

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 25.10 раніца | 25.10 дзень | 25.10 вечар | 26.10 ноч | 26.10 раніца | 26.10 дзень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 733 | 734 | 737 | 737 | 735 | 731 |
| тэмпература паветра, °С | +4 | +5 | +5 | +3 | +2 | +3 |
| вільготнасць паветра, % | 95 | 90 | 93 | 94 | 96 | 90 |
| вецер, м/сек | 6-10 | 4-7 | 2-5 | 2-5 | 4-7 | 4-7 |



## Чытайце праз тыдзень:

- **В'етнамцы**, якія вучацца, жывуць, нараджаюць дзяцей у Беларусі.
- **Каму належала Вязынь, Будслаў, Раёўка.** Дакументы расказваюць.
- **Галяноўская брама.** Архітэктурны помнік, якога няма.



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9150 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№43 (392) 25.10.2002**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 3000. Падпісана ў друк у 13.00 24.10.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444**